



# Рэгіянальная газета. Rh.by




НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

12+

17 лістапада 2017 года №46 (1177)


## Блізкія загінулай у пажары 18-гадовай дзяўчыны спрабуюць высветліць абставіны трагедыі

старонка 5

## "У парушэннях дзяцей заўсёды ёсць віна бацькоў"

старонка 17

## ДЮСШ 4: кот Опель і выпускнікі, якія гуляюць у вышэйшай лізе

старонка 22

## Жыхарка Кіева распавяла, як жыла і працавала доктарам у Валожыне

старонка 21

# Гандлёвым радам на Старым Месце ў Маладзечне сёлета спаўняецца 260 гадоў

Тут можна было б ставіць помнік гандлярам, як на мінскай Камароўцы...

старонка 2

Фота Наталлі ТУР.





# Каб абараняць правы інвалідаў, трэба, каб самі інваліды ведалі іх




Сярод удзельнікаў прэс-ланча былі прадстаўнікі ўлады, супрацоўнікі цэнтра сацыяльнага абслугоўвання інвалідаў, інваліды і іх сем'і.



Ларыса Шчарбачэвіч.



Галіна Рай.



Віктар Субач.

ВАЛОЖЫН

**Прэс-ланч, прысвечаны распаўсюджанню і выкарыстанню ідэй Канвенцыі "Аб правах інвалідаў" адбыўся ў Валожынскім тэрытарыяльным цэнтры сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва, дзе ўжо 10 гадоў працуе аддзяленне дзённага знаходжання інвалідаў.**

Сустрэчу можна было раздзяліць на тры блокі. У першым ішла гаворка пра само аддзяленне, у другой частцы быў агучаны праект распаўсюджання ідэй Канвенцыі і апошняя, самая гарачая частка, тычылася абмеркавання сітуацыі ў Валожыне, калі запрошаныя інваліды і сем'і інвалідаў выказаліся пра тое, чаго на дадзены момант не хапае для іх паўнавартаснага жыцця.

Загадчыца аддзялення дзённага знаходжання інвалідаў **Ларыса Шчарбачэвіч** расказала:

– 10 гадоў таму для аддзялення быў выдзелены толькі адзін пакойчык у тэрытарыяльным цэнтры. Ды і запрашаць да нас інвалідаў было цяжка. Многія сем'і не разумелі, што гэта дасць хвораму чалавеку. Аднак ужо ў першы год запрацавалі гурткі "Майстар кухні", "Фотаатэлье". Нашы "хлопчыкі" і "дзяўчынкі" сталі з задавальненнем наведваць гурткі, вучыцца чамусьці новаму, знаёміцца паміж сабой.

**Сёння аддзяленне наведваюць 80 чалавек з інваліднасцю.**

Тут працуюць майстэрні, гурткі. Людзі з інваліднасцю маюць магчымасць займацца творчасцю: маляваць і выразаць, рабіць вырабы з саломкі і іншых матэрыялаў. Тут вучаць садзіць кветкі і агарод, вырошчваць нават грыбы. Ладзяцца сустрэчы з цікавымі людзьмі, сюды прыязджаюць вядомыя спевакі, пісьменнікі, акцёры.

– Таму, калі Беларусь у канцы 2016 года ўсё ж ратыфікавала міжнародную Канвенцыю, – кажа Ларыса Шчарбачэвіч, – стала зразумела, што праект такі проста неабходны, бо, як гэта ні сумна, праблемы існуюць. І яны тычацца не толькі добраўпарадкавання гарадоў і вёсак для зручнасці інвалідаў.

– Але да таго, як мы пачнём абараняць правы інвалідаў, трэба, каб самі інваліды былі інфармаваныя, ведалі свае правы, – падкрэсліла **Галіна Рай**, дырэктар Валожынскага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва.

Праектам прадугледжаныя азнаямляльныя мерапрыемствы, каб расказаць людзям з асаблівасцямі, на што яны маюць права і як яны змогуць скарыстацца гэтым правам у сябе дома.

## У аддзяленні павінны працаваць валанцёры

Старшыня праўлення грамадскай арганізацыі "Беларускае таварыства інвалідаў" **Віктар Субач**, што прысутнічаў на сустрэчы, парыраваў:

– Інваліды, якраз-такі, ведаюць, што гэта за Канвенцыя, вы пазнаёмце з ёй людзей, ад якіх залежыць, ці будзе ў інваліда вазок або ці будзе ў яго магчымасць выйсці на вуліцу, а то прыходзіш да іх, а яны вачыма лыпаюць і не ведаюць, што гэта такое.

У бліжэйшых планах гэтай грамадскай арганізацыі дамагчыся поўнай рэалізацыі ўжо прынятых дзяржаўнымі органамі праграм па безбар'ерным асяроддзі і прыладжвання аб'ектаў сацыяльнай і жылой інфраструктуры для пражывання і перамяшчэння інвалідаў-калясачнікаў. Віктар Альгертавіч падкрэслівае, што такія праграмы па безбар'ерным асяроддзі павінны забяспечвацца магчымасцю судовага пераследу тых юрыдычных асоб, якія ігнаруюць патрабаванні гэтай праграмы.

Гэтыя словы старшыні грамадскай арганізацыі падхапілі і самі інваліды, якія прысутнічалі на сустрэчы.

**– Вы паглядзіце, як я, сляпы, сабе каля дома плітку паклаў, а то хаджу, чапляюся нагамі. Сварыўся з тымі "спецыялістамі", што клалі плітку, а мне адказваюць: "Як умеем, так і робім".**

Узрушаліся таксама і таму, для чаго ў горадзе зрабілі высокія бардзюры. Прычым, гэта датычыцца не толькі Валожына. Банкі, магазіны пандусы зрабілі, але які ад іх толк, калі па ўсім горадзе зробленыя высокія бардзюры? І чалавек на вазку або сляпы проста не можа пераехаць іх ці пераступіць.

– Было б добра, каб за аддзяленнем замацавалі якіх-небудзь валанцёраў, – прапанавала жанчына з Івянца. І расказала сваю гісторыю:

– Майму дзіцяці 16 гадоў, ён у інвалідным вазку і ў яго працуе адна рука. А я фізічна не магу падымаць яго. Нас запрашаюць і на ёлкі, і ў цырк, але як туды трапіць? Калі няма дапамогі, няма каму спусціць яго да машыны? Кажуць, мы па законе маем права на вазок з электрапрыводам. Было б добра, каб дзіця магло кіраваць сваім вазком адной рукой. Да каго звяртацца з гэтай просьбай?

Жанчыне паабяцалі адказаць на пытанне. Хочацца думаць, што гэта маленькая дапамога адной канкрэтнай сям'і стане першай цаглінкай у рэалізацыі такой вялікай і важнай праграмы, як абарона правоў інвалідаў.

**Фота аўтара.**



Наталля ТУР
natali.turenok
@gmail.com
8-044-
566-26-99

# “Людзі баяліся, што іх прозвішчы “засвецяцца” ў высокай інстанцыі”

## Маладзечанка распавяла, як збірала подпісы за перанос анкадыспансера з будынка былой вілейскай турмы

ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА

**Днямі ўслед за пісьмом у Адміністрацыю Прэзідэнта ад віляйчан пайшло такое ж пісьмо пра будаўніцтва новага анкадыспансера ў Вілейцы ад маладзечанцаў.**

Фота забяспечана Кацярынай ШЫТЫКА.

Кацярына Шытыка з Маладзечна.

Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Вілейскіх жанчын, якія ўзнялі пытанне анкадыспансера, Кацярына Шытыка лічыць актывісткамі.

Пад пісьмом – 200 подпісаў. Ініцыятарам справы стала маладзечанка **Кацярына Шытыка** – дырэктар аднаго з прыватных прадпрыемстваў горада.

– Пачалося ўсё з таго, што па сацыяльных сетках я звязалася з **Жаннай Гардынец** з Вілейкі і прапанавала паставіць свой подпіс пад пісьмом, – распавяла Кацярына. – Жанна сказала, што збіраюць подпісы толькі ад жыхароў Вілейкі, і тут жа прапанавала, каб маладзечанцы напісалі сваё пісьмо.

Кацярына пагадзілася ўзяцца за справу. Сабраць подпісы і правільна скласці ліст дапамагалі жыхаркі Маладзечна **Ала Глінская** і **Людміла Бударкевіч**.

Па словах Кацярыны, збіраючы подпісы, яна крыху расчаравалася.

– Я дырэктар прадпрыемства, мама дваіх дзяцей, таму хадзіць па грамадскіх месцах часу ў мяне не было, – падзялілася маладзечанка. – Чапляцца да кожнага са сваіх кліентаў таксама не хацелася.

Кацярына раздрукавала пісьмо і паклала ў кліенцкім пакоі, каб наведнікі маглі азнаёміцца і пакінуць подпіс. Але на ліст мала хто звяртаў увагу. Некаторыя спачувалі віляйчанам на словах, аднак падпісаць ліст адмаўляліся. Па назіраннях Кацярыны, больш за ўсё людзей палохала тое, што іх подпісы, прозвішчы і пашпартныя дадзеныя “засвецяцца” ў высокай інстанцыі.

Больш-менш арганізавана падпісалі медыкі – супрацоўнікі тубдыспансера і скурна-венералагічнага дыспансера, работнікі ЗЛМК.

Прыемна здзівіла Кацярыну тое, што супрацоўнікі аднаго з банкаў у Маладзечне самі пажадалі падпісацца:

– Я проста прывезла здаваць выручку, а супрацоўнікі ў банку пытаюцца: “Гэта Вы тая Кацярына, што подпісы збірае?”. І падпісаліся.

Зрабіла жанчына пост і ў сацсетках. Прагляданў было шмат, але з некалькіх дзясяткаў падпісаліся толькі два чалавекі. Па словах Кацярыны, часу на збор подпісаў было два тыдні, спяшаліся да новага года. Пасля святы, людзі былі занятыя іншымі справамі. Магчыма, спрацавала тое, што жыхары Маладзечна, у адрозненне ад жыхароў Вілейкі, слаба ўяўляюць, як выглядае сёння будынак.

Кацярына не лічыць сябе актывісткай. Кажа, што актывісты – гэта жанчыны з Вілейкі, а яна проста падтрымлівае іх. І спадзяецца, што лісты ў Адміністрацыю Прэзідэнта ад маладзечанцаў і віляйчан нешта зменяць у лепшы бок для пацыентаў анкалагічнага дыспансера ў Вілейцы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Хто можа не плаціць абавязковыя страхавыя ўзносы

МАЛАДЗЕЧНА

**По стане на 1 кастрычніка 2017 года пратэрмінаваная запазычанасць па 37 арганізацыях раёна ўсё яшчэ складае 857 961,81 рубля.**

Хоць яна паменшылася ў параўнанні з леташнім 1 студзеня, але ўсё яшчэ большая, чым была на 1 студзеня 2016 года. Тады запазычанасць па абавязковых страхавых узносах складала 530 700,84 рубля.

Законам “Аб пенсійным забеспячэнні” вызначана, што ў працоўны стаж залічваецца работа, у перыяд якой работнік падлягаў дзяржаўнаму сацыяльнаму страхаванню і за яго выплачвалі страхавыя ўнёскі.

Ад мінулага года права на працоўную пенсію па ўзросце, за выслугу гадоў даецца пры стажы работы з выплатай абавязковых страхавых узносаў у бюджэт фонду не менш за 16 гадоў. Далей штогод ад 1 студзеня стаж работы з выплатай унёскаў у бюджэт фонду будзе павялічвацца на 6 месяцаў, пакуль не дасягне 20 гадоў.

Закон устанавіў непасрэдную сувязь памеру прызначанай пенсіі работніку з яго заробкам і сумай выплачаных страхавых унёскаў. У выпадку, калі не ўносіліся плацяжы ў бюджэт фонду, у выпісцы з індывідуальнага рахунка застрахаванай асобы для прызначэння пенсіі будуць адлюстраваныя перыяды і яны не ўвойдуць чалавеку ў стаж.

Замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства, якія працуюць у Беларусі або з’яўляюцца індывідуальнымі прадпрымальнікамі, ад 1 студзеня 2016 года павінны абавязкова страхавацца на тых жа ўмовах, што і ўсе грамадзяне, і выплачваць абавязковыя ўнёскі. Ад ліпеня 2017 года ўнесеныя змены ў Закон “Аб дзяржаўнай дапамозе сем’ям, якія выхоўваюць дзяцей” у сувязі з пашырэннем кола людзей, што абавязкова выплачваюць страхавыя ўнёскі.

Разам з тым застаюцца катэгорыі працуючых грамадзян, якім даецца права ўдзелу ў праваадносінах па дзяржаўным сацстрахаванні – прынцып добраахвотнасці выплаты. Гэта асобы, якія выконваюць работы па грамадзянска-прававых дагаворах па аказанні паслуг, стварэнні аб’ектаў інтэлектуальнай уласнасці, творчыя работнікі, рамеснікі, работнікі прадстаўніцтваў міжнародных арганізацый Беларусі, дыпламатычных прадстаўніцтваў і консульскіх устаноў замежных дзяржаў.

Таксама тыя, хто працуе за мяжой, і прадпрымальнікі, якія адначасова знаходзяцца ў працоўных адносінах, вучацца на дзённай форме навучання, атрымліваюць пенсію, маюць права на дапамогу па доглядзе за дзецьмі да трох год.

У выпадку ўдзелу ў праваадносінах па дзяржаўным сацыяльным страхаванні названых грамадзян, яны карыстаюцца правамі і нясуць абавязкі нароўні з тымі, за якіх унёскі на дзяржаўнае сацстрахаванне выплачваюцца абавязкова.

**Марына СЕВЕРЫНА,**
**начальнік Маладзечанскага райаддзела Мінаблупраўлення ФСАН.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 4.01 | 11.01 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9790 | **2,0146** |
| Еўра | 2,3814 | **2,4059** |
| Злоты, 10 | 5,7120 | **5,7563** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,4342 | **3,5423** |
| Грыўня, 100 | 7,1008 | **7,1084** |
| Курсы ў “Банку БелВЭБ” | 3.01 | 10.01 |
| Еўра | 2.3550/2.4000 | **2.3950/2.4200** |
| Долар ЗША | 1.9700/2.0100 | **2.0100/2.0300** |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 3.01 | 10.01 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса “Мядовая”, 1 кг | 16,95 | **16.95** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 2,98 | **2,98** |
| Сасіскі “Малочныя”, 1 кг | 6,98 | **6,90** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | **8,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,10 | **4,10** |
| Селядзец, 1 кг | 3,70 | **3,70** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **14,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,50 | **1,50** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,45 | **1,45** |
| Алей “Залатая семачка”, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава “Nescafe”, 100 г | 5,20 | **4,80** |
| Маянэз, 200 г | 0,95 | **0,95** |
| Соус “Мінскі”, 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 1,70 | **1,80** |
| Агуркі, 1 кг | 4,30 | **5,70** |
| Баклажаны, 1 кг | 13,00 | **10,00** |
| Бульба, 1 кг | 0,50 | **0,50** |
| Буракі, 1 кг | 0,60 | **0,65** |
| Капуста, 1 кг | 0,40 | **0,39** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,90 | **1,90** |
| Морква, 1 кг | 0,60 | **0,59** |
| Памідоры, 1 кг | 3,90 | **3,50** |
| Перац, 1 кг | 6,90 | **6,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,60 | **0,65** |
| Часнок, 1 кг | 4,90 | **4,95** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,50 | **3,30** |
| Бананы, 1 кг | 2,50 | **2,00** |
| Вінаград, 1 кг | 4,50 | **4,70** |
| Гранаты, 1 кг | 4,50 | **3,80** |
| Грушы, 1 кг | 3,00 | **2,95** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 3,60 | **3,50** |
| Ківі, 1 кг | 4,50 | **3,70** |
| Лімоны, 1 кг | 3,90 | **3,85** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,90 | **3,70** |
| Хурма, 1 кг | 4,50 | **3,20** |
| Яблыкі, 1 кг | 2,30 | **1,89** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Масла, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Мёд, 0,5 л | 7,00 | **7,00** |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,50 | **3,50** |

● НАВІНЫ

## Скраў срэбраны пярсцёнак з рукі знаёмага

**СМАРГОНЬ**

Напрыканцы мінулага тыдня са Смаргоні двое мужчын 34 і 27 гадоў разам выпівалі. Сумесныя пасядзелкі скончыліся рабаваннем.

Піць пачалі ў абед, працягнулі да вечара.

Старэйшы мужчына ўбачыў на пальцы свайго маладога знаёмага срэбраны пярсцёнак. Пачаў выпрошваць упрыгажэнне. А атрымаўшы адмову, сілай зняў пярсцёнак і збег.

27-гадовы пацярпелы звярнуўся ў міліцыю.

**Паводле УУС Гродзенскага аблвыканкама.**

## З аграсядзібы скралі экспанат – матацыкл

**МЯДЗЕЛ**

Ноччу з 6 на 7 студзеня невядомыя скралі старадаўні матацыкл з байдарачнай сядзібы ў вёсцы Вузла, паведамляе гаспадар **Андрэй Гладкі**.

Па слядах гаспадар мяркуе, што матацыкл маглі ўгнаць у бок Вілейкі.

Па яго словах, матацыкл стаяў у зоне даступнасці. Усе, хто хацеў, мог сфатаграфавацца ля яго. Гаспадар не адмаўляў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Скралі грошы з касцёла

**ВІЛЕЙКА**

У ноч з 6 на 7 студзеня невядомы скраў грошы з касцёла ў Даўгінаве, распавялі ў Вілейскім РАУС.

Злодзей пабіў акно і ўлез у будынак. У касцёле былі дзве скрыні з ахвяраваннямі вернікаў на патрэбы храма.

Адну са скрынь і прыхапіў злодзей. У ёй было каля 200 рублёў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

● УВАГА! ВЫШУК!

## Следчыя шукаюць 19-гадовага валожынца

Валожынскі раённы аддзел Следчага камітэта шукае 19-гадовага **Фяфіліна Віктара Сяргеевіча**.



Ён нарадзіўся 25 кастрычніка 1998 года ў Валожыне. Тут жа жыў па адрасе: вуліца Чапаева, дом 39, кватэра 40.

Віктар Фяфілін 26 кастрычніка мінулага года каля васьмі гадзін раніцы выйшаў са свайго дома. Да гэтага часу яго месцазнаходжанне невядомае.

Прыкметы: на выгляд каля 20 гадоў, высокі, худы, з бледным авальным тварам. Высокі лоб, прамыя нізкія бровы, карыя вочы, цёмна-русыя хвалістыя валасы, звонкі голас. Памер абутку 40-41.

Асобыя прыкметы: курыць, злоўжывае спіртнымі напоямі.

Грамадзян, якім нешта вядома пра месцазнаходжанне Віктара Фяфіліна, просяць патэлефанаваць у Валожынскі РАУС на нумары **8 (01772) 5-53-02, 5-40-21** (дзяжурная часць) або па мабільных тэлефонах **8 (029) 685-53-02 (Вэлком), 8 (029) 507-66-98 (МТС)**, або ў бліжэйшы аддзел міліцыі на нумар **102.**

**Аксана САГАЗІН, следчая Валожынскага РАСК.**

## Міліцыя шукае маладзечанку, якая ў 2003 годзе з'ехала ў Расію

Маладзечанскі РАУС шукае 43-гадовую **Валянціну Пятроўну Калюту**, якая жыла ў Маладзечне па вуліцы Прытыцкага, 2-35.



У 2003 годзе жанчына з'ехала ў Расію і да гэтага часу месца яе знаходжання невядомае.

Сваякі зніклай маладзечанкі спадзяюцца на дапамогу грамадзян.

Міліцыя просіць людзей, якім нешта вядома, тэлефанаваць на нумары **8 (0176) 749683, 771656, 8 (029) 5464044 або 102**. Канфедэнцыйнасць гарантуюць.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**



# Пешахода збілі насмерць у дзень яго нараджэння

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Здарэнне адбылося ў вёсцы Дуброва 3 студзеня.**



Калаж "РГ".

Пешаход быў з флікерам, ішоў, не парушаючы правілаў.

37-гадовы кіроўца аўтамабіля "Опель-Амега" рухаўся паблізу дома №19 па вуліцы Каліноўскага. Гадзіннік паказваў 18:22. У гэты час кіроўца, які па папярэдніх дадзеных знаходзіўся ў стане алкагольнага ап'янення, выехаў на паласу сустрэчнага руху, дзе наехаў на пешахода, мясцовага 39-гадовага жыхара.

Мужчына ішоў па левым баку дарогі, супраць руху аўтамабіляў, быў пазначаны флікерам.

– Нёс дадому торт, бо ў гэты дзень быў яго дзень нараджэння. Аднак ад атрыманых траўмаў памёр у машыне "хуткай дапамогі", – удакладніў інспектар Маладзечанскай ДАІ **Сяргей Бартош.**

Маладзечанскі следчы камітэт узбудзіў крымінальную справу па артыкуле 317, частка 2, Крымінальнага кодэкса Беларусі.

Праводзіцца праверка.

**Наталля ТУР.**

## Крывавая разня ў Маладзечне 12 год таму

### Прыгадваем гучную крымінальную справу, якой адзначыўся мінулы год Сабакі

**МАЛАДЗЕЧНА**

**У лістападзе 2006 года ў адным з блокаў інтэрната па вуліцы Машэрава ў Маладзечне міліцыянеры ўбачылі чатыры трупы з перарэзанымі горламі.**



вакол здарэння

4

■ ЗАБОЙСТВЫ

Крывавая разня ў Маладзечне

*МАЛАДЗЕЧНА. Чатыры целы з перарэзанымі горламі ўбачылі супрацоўнікі праваахоўных органаў у блоку №111 інтэрната па вуліцы Машэрава, 18 каля паловы першай ночы 13 лістапада. Падазроныя ў крывавым разборы затрыманы і змешчаны ў ізалятар часовага ўтрымання.*

Хутчэй за ўсё, менавіта праз гэтыя дзверы забойца ўвайшоў у інтэрнат, што на вуліцы Машэрава ў Маладзечне, каб пачаць свой жорсткі крывавы разбор.

Як паведаміла нашаму выданню судовы медыцынскі эксперт Ірэна Сяліцкая, якая праводзіла анатаміраванне трупаў, па папярэдніх выніках работы экспертаў, крывавыя падзеі адбыліся каля 23 гадзін 12 лістапада і доўжыліся каля паўгадзіны. Пацярпелыя памерлі амаль адначасова. Прычына смерці – шматлікія колата-разаныя раненні шыі з пашкоджаннем шыйных сасудаў.

"Шыі былі "пашынкаваныя" са страшнай сілай, – сказала Ірэна Сяліцкая, – і ўсе – з правага боку. Відаць, забойца рэзаў з аднаго становішча".

Як адзначыў Вадзім Шукрынаў, сцены і столь у пакоі былі проста чырвонымі ад крыві. Целы ў маленькім пакойчыку ляжалі адно на адным. Следчы пракуратуры лічаць, што забойствы адбыліся на сямейна-бытавой глебе. Дэталі павінна ўстанавіць следства. Сення толькі вядома, што ўсе ўдзельнікі трагедыі, акрамя 53-гадовага мужчыны, знаходзіліся ў сваяцкіх адносінах. 53-гадовы госць сам'і стаў выпадковай ахвярай разбору.

На здарэнне выязджала вялікая група праваахоўнікаў – следчы і пракурор Маладзечанскага раёна, ... мясцовай міліцыі, аператыўнікі, следчы па асабліва важных справах абласной пракуратуры. Была створаная следча-аператыўная група і прызначаныя экспертызы.

Крымінальная справа ўзбуджаная па першым пункце другой часткі 139 артыкула Крымінальнага кодэкса – "забойства двух і больш асоб".

Архіў "РГ".

У "РГ" №46 2006 года міліцыя звярталася да чытачоў з просьбай не распаўсюджваць чуткі пра здарэнне.

"Рэгіянальная газета" пісала тады, што забітымі аказаліся 32-гадовыя муж і жонка, 59-гадовы бацька жанчыны і іх 53-гадовы знаёмы. Падзеі адбываліся у адным з пакояў інтэрнацкага блока.

**Вадзім Шукрынаў**, які ў той час працаваў следчым раённай пракуратуры ў Маладзечне, распавёў "Рэгіянальнай газеце", што сцены і столь у пакоі былі заліты крывёй. Целы ляжалі адно на адным. Прычынай такіх разборак сталі бытавыя адносіны. Усе ўдзельнікі, акрамя 53-гадовага мужчыны, былі сваякамі. 53-гадовы госць стаў выпадковай ахвярай разбору.

На здарэнне выязджала вялікая група праваахоўнікаў – следчы і пракурор Маладзечанскага раёна, кіраўнікі мясцовай міліцыі, аператыўнікі, следчы па асабліва важных справах. Падазронага ў злачынстве ў хуткім часе затрымалі.

Мы звярнуліся да Вадзіма Шукрынава, які працуе сёння пракурорам Вілейскага раёна. Вадзім Аляксандравіч памятае маладзечанскую справу 12-гадовай даўніны. Пракурор патлумачыў, што справу тады перадалі ці ў абласны, ці нават у Вярхоўны суд. Прыгадаў, што злачынцам аказаўся сваяк забітай сям'і. Суд пакараў мужчыну пажыццёвым зняволеннем.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

УНП 600003222

# Покупаете за границей мебель в “Икеа” ?

## Вероятно, вы привозите домой мебель из Молодечно

Да-да, потому что в Молодечно уже почти 30 лет работает белорусско-германское производственное совместное предприятие “Минский Мебельный Центр” ООО.

Главный экономист предприятия **Елена Герасимова** говорит:

– Для нас самих было неожиданностью узнать, что наш “Минский мебельный центр” входит в тройку валообразующих предприятий города по итогам 2017 года.

С самого открытия предприятия в 1989 году было обозначено, что оно будет экспортноориентированным.

“Минский мебельный центр” работает на рынки Америки, Европы, России.

– А вот арабы, – улыбается Елена Григорьевна, – нашу продукцию не оценили. Говорят, нет глянца и золотой патины. Зато европейцы давно знают, что наша мебель красивая и экологичная.

**Здесь выпускают мебель только из массива сосны. И в свое время это стало своеобразным ноу-хау.**

Известно, что сосна – материал мягкий, и производители мебели не обращали на этот материал внимания. А зря. Потому что мебель из массива сосны оказалась востребованной.

– Наш самый крупный клиент на сегодня – это известный всем бренд “Икеа”. Этот клиент самый крупный, но и самый придирчивый. Не дай бог выпустить мебель не такого цвета или укомплектовать не той фурнитурой, отличной от обзазца. Зато благодаря “Икеа” мебель из Молодечно украшает дома французов, австрийцев, немцев и даже американцев и англичан. А с 2007 года, когда “Икеа” начала открывать магазины в России, наша мебель поставляется и туда.

“Икеа” – не единственный известный бренд, с которым работает “Минский мебельный центр”. Помните немецкие каталоги “Отто”? Вот в них также представлена мебель из Молодечно.

– Это наш относительно новый заказчик, – продолжает Елена Герасимова, – и только для них мы начали выпускать в 2017 году около 150 новых моделей мебели.

“Минский мебельный центр” выпускает спальни, детские комнаты, столовые, комоды, шкафы, гостиные.

– И еще стулья!

На самом деле, стулья в “Минском мебельном центре” не делали еще совсем недавно. Но от покупателей стали поступать просьбы, мол, вы выпускаете такие красивые обеденные столы, где же взять к ним стулья?

– Мы пошли навстречу нашим заказчикам и с конца 2016 года запустили в производство три модели стула, которые успешно продаются.

Одно из самых главных качеств мебели производства СП ММЦ ООО – экологичность.

– Мы работаем с европейцами, для них вопросы экологии на первом месте. В некоторых заказах даже оговорено, что и задняя стенка шкафов, и дно ящиков – все должно быть выполнено из дерева или фанеры.

А еще “Минский мебельный центр” можно назвать уникальным потому, что здесь практически безотходное производство.



Директор “Минского мебельного центра” Василий Курган, посередине, лично интересуется каждой деталью будущей мебели.

– У нас работают две лесопилки. Конечно, возникали вопросы с утилизацией отходов. Сегодня дробим отходы лесопиления, превращая их в щепу, и предлагаем ТЭЦ.Кроме того, наладили выпуск топливных брикетов на Крупской лесопилкеи поставляем их на экспорт.

**А в 2010 году запустили производство топливной гранулы в Молодечно. Мы пятое предприятие в Беларуси, которое получило международный сертификат по топливным гранулам.**

Сегодня в “Минском мебельном центре” работают около 1000 человек.

– И я пришла сюда на работу в 1997 году, – говорит главный экономист Елена Герасимова, – прошла по цехам, вдохнула этот запах настоящего дерева и поняла: “Люблю! И никуда я отсюда не денусь”.



В цеху всегда тепло и светло, благодаря котельной, которая принадлежит предприятию.



Спальный гарнитур “Гётеборг” украшает дома немцев, французов, англичан.




# Куплю Прадам Зраблю

## Дзе падаць аб'яву

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. (80176) **537804, 8 (029) 6768420.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **22211.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **55542, 55237.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. (801797) **55266, 55765.** |

* *Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* Rh.by

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- Аўдзі А6С5, 2001 г.в., 2,5тді куатро, белы колер, скураны салон, літыя дыскі, кліма, універсал. Т. (8-029) 5676488.
- ВАЗ-21063, 1989 г.в., бэжавы колер. Т. (8-029) 1798400.*
- Гольф-7, 2014 г., Опель-Зафіра, 2014 г., торг. Т. (8-029) 3063523.*
- Пежо-207, 2010 г.в., 1,4 бензін, 5-дзверны, 5 кпп, ідэальны стан. Цана 11 800 рублёў. Т. (8-029) 1720535.*
- Таёта Карола, 2014 г.в., 1,6Б,. Т. Вэлком 3063523.*
- ФВ Гольф, 1989 г.в., 1,3 аб'ём, аварыйны, 3-х дзверны. Нядорага. Т. (8-029) 2766295.*
- Прычэп да легкавога аўтамабіля Зубраня, 1989 г.в., добры стан. Т. (8-029) 6017546.
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*
- Зімовая гума R15, дыск R15 да Міцубісі, гума з камерай R13, адна летняя гума R14. Т. (8-029) 5771112.
- Зімовая гума на дысках для Аўдзі з калпакамі – 4 шт., R16 205х55. Т. (8-029) 7700659.*



- Зімовыя шыны б/у 185/65-R15 (Францыя). Т. (8-029) 6207706.

### КУПЛЮ

- Аўто ў любым стане. Т. (8-029) 1261119.*
- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 9961242.*
- Аўто, можна аварыйнае. Т. (8-029) 5677052. *
- Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 2016100.*

### ІНШАЕ

- Антыкаразійны цэнтр DINITROL. Апрацоўка днішча, колавых арак, схаваных поласцяў. Гарантыя ад 3 да 7 гадоў. Дыягностыка кузава і кансультацыя – бясплатныя. Наяўны, безнаяўны разлік. Маладзечна, зав. Лазневы, 10 (раён школы №1). ІП Блоцкая В. М. УНП 691898138. Тэл. Вэлком 8 (029) 3239999, МТС (8-033) 3239999.*

### ПАСЛУГІ

- **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*
- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка уласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, новабудоўля, 2016 г., цэгла, 2-гі паверх. Т. (8-029) 6119180, (8-033) 6626858.*
- 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, 1 паверх, 35 кв. м, раён Гелянова. Т. (8-044) 4529416.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 7096399, (8-029) 3343584.
- 2-узроўневы дом ў Вілейцы, цэгла, 110 кв. м, усе камунікацыі, 11,5 соткі зямлі альбо мяняю на кватэру ў Мінску. Т. (8-01771) 56170, (8-029) 6940541.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, 5 паверх 5-павярховага цаглянага дома. Торг. Т. МТС (8-029) 5588540.



- 3-пакаёвая кватэра на першым паверсе. Падрабязнасці па тэлефоне. Т. (8-029) 6333777, (8-029) 6888111.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, вул. Гагарына, 2 паверх, з еўрарамонтам. Нацяжная столь, ламінат, шклопакеты, італьянская плітка, замененыя праводка, трубы. Побач лес, басейн, д/сад, магазіны і інш. Т. (8-029) 6958714.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, раён Зеніт. Т. (8-029) 6305419.*
- Гараж у ГБК Ізбіна, г. Вілейка. Т. (8-029) 2375721.
- Гараж у ГБК Ізбіна3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Падрабязнасці па тэлефоне (8-029) 8558089.*
- Гараж у ГБК-4 "Зеніт", насупраць прыпынку вакзала ў Вілейцы, памер 3х6 м, ёсць яма, сцяжка падлогі бетонная. Столь падшытая, дзверы уцепленыя. Ёсць тэхпашпарт. Т. (8-029) 6585886, (8-029) 5571454.
- Дом жылы ў Маладзечне, газавае ацяпленне, 7 сотак, нядорага. Т. (8-029) 6691789.*
- Дом у в. Любань. Звяртацца па тэл. (8-029) 5689794.*
- Дом у в. Порса, участак 20 сотак. Т. (8-029) 1214671.*



- Дом у в. Снежкава (прыгарад Вілейкі). Т. (8-029) 2581605.*

### МЯНЯЮ

- Дом у вёсцы, 8 км ад Вілейкі, на 1-пакаёвую кватэру. Т. (8-033) 6843536.

### ЗДАМ

- 2-пакаёвую кватэру на доўгі тэрмін. Макаўе. Т. (8-029) 8505995.
- Гараж у ГБК № 12 г. Маладзечна. Т. (8-029) 8709772.
- Здам у арэнду ізаляванае памяшканне ў будынку магазіна ў Вілейцы. ІП Ліхачоў М.В. УНП 600438977 Т. (8-029) 5551515.*

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

- Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны. Т. (8-033) 3400865. Васкабовіч А.А.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

- **ФАТОГРАФ. ВЯСЕЛЛІ. ПАМЯТНЫЯ ДНІ. СЯМЕЙНАЕ ФОТА. LOVE STORY. ПАРТРЭТЫ. ЛІЧБАВАЯ І СТУЖКАВАЯ ФАТАГРАФІЯ. Юркоў У.А. Т. (8-044) 5745873.***



### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

- Мерсэдэс-508, тэнт, да 3 тон + 5 пасажырскіх месцаў, па горадзе і РБ. Кватэрныя пераезды. Вываз смецця. Грузчыкі. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*
- Грузаперавозкі. Бус 1,5 тоны. Т. (8-029) 1921299. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312.*
- Грузаперавозкі. Фура-борт, 20 тон. Т. (8-029) 1921299. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312.*
- Мерсэдэс – 412, 2,5 т, 20 куб.м. Сапнашпарт. Пераезды. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

## СПАЧУВАННЕ

Паважаная
**Наталля Мікалаеўна Жыгарэнка**
з п. Нароч Вілейскага раёна.
Выказваем Вам і Вашай сям'і шчырае спачуванне з прычыны напаткаўшага вялікага гора – смерці маці, цешчы, бабулі.
**Сваты МАЛАФЕЙ, сям'я СТРОКАНЬ.**





МОЛОДЕЧНОГАЗ

# БЕЗОПАСНОСТЬ при пользовании газом в быту

**В наше время газ является незаменимым помощником в каждом доме. Однако следует знать, что это не только удобный, экономичный вид топлива, но и при неправильной эксплуатации еще и очень опасный.**

**Газ в смеси с воздухом – взрывопожароопасен.**

Почувствовав запах газа в помещении, необходимо немедленно прекратить пользование газовыми приборами, закрыть все краны на газовых приборах и краны перед приборами или закрыть вентиль на баллоне (при наличии газобаллонной установки), открыть окна для сквозного проветривания помещения, покинуть загазованное помещение, вызвать (вне загазованного помещения) аварийную бригаду по тел.**104**. До приезда аварийной бригады запрещается пользоваться открытым огнем, курить, включать и выключать электроприборы, электроосвещение, а также допускать посторонних людей в загазованное помещение.

**ЗАПРЕЩАЕТСЯ**:

- оставлять без присмотра работающие газовые плиты, а также использовать их для обогрева помещений;
- оставлять открытыми вентили баллонов, краны, находящиеся перед газоиспользующим оборудованием и на нем, после окончания пользования газоиспользующим оборудованием;
- производить самовольное подключение, отключение, перестановку, разборку и ремонт газоиспользующего оборудования;
- срывать пломбы, установленные на приборах учета расхода газа, и вмешиваться в работу приборов;
- сушить вещи над пламенем горелок газовой плиты;
- использовать для сна помещения, в которых установлено газоиспользующее оборудование;
- эксплуатировать газовые котлы и водонагреватели при неисправных дымовых и вентиляционных каналах, при отсутствии тяги и актов проверок технического состояния каналов;
- применять огонь для обнаружения утечки газа из газопроводов и газоиспользующего оборудования;
- пользоваться газоиспользующим оборудованием, находящимся в эксплуатации свыше 20 лет;
- включать газовые отопительные котлы и водонагреватели при неисправной автоматике безопасности и при ощущении запаха газа в помещении;
- устанавливать в помещении топочной душевые кабины, ванны, санузлы.

Ежегодно в Беларуси происходят несчастные случаи, в результате которых имеются пострадавшие люди, иногда со смертельным исходом. Трагическая ирония в том, что соблюдение жильцами самых элементарных правил, изложенных в руководстве по эксплуатации газового оборудования и в Правилах пользования газом в быту, помогло бы избежать подобных происшествий и несчастных случаев.

Так, 12 ноября 2017г. в г. Молодечно по адресам: ул. Космонавтов д. 5 кв.25, ул. Мовчанского д.22а кв.16, в результате оставленных без присмотра работающих газовых плит были загазованы помещения, что вызвало угрозу взрыва и пожара, а также угрозу жизни и здоровья остальных жителей указанных многоквартирных домов. Прибывшей аварийной бригадой были немедленно отключены от системы газоснабжения абоненты по вышеуказанным адресам, а также приняты меры по локализации и ликвидации последствий происшествия. Согласно Кодекса Республики Беларусь об административных правонарушениях (Статья 20.9. «Нарушение правил пользования газом в быту») самовольное использование газа или иное нарушение Правил пользования газом в быту, не причинившие существенного вреда, влекут **НАЛОЖЕНИЕ ШТРАФА** в размере от четырех до двадцати базовых величин.

В связи с понижением температуры наружного воздуха повышается вероятность обмерзания оголовков дымовых и вентиляционных каналов для отвода продуктов сгорания от газовых проточных водонагревателей, отопительных котлов и аппаратов. Каждый год на территории Республики Беларусь регистрируются случаи отравления людей угарным газом.

При сжигании газового топлива при недостаточном поступлении кислорода воздуха (закрытая форточка, неисправная вентиляция) вследствие неполного сгорания, выделяется угарный газ (CO), который при работе газового отопительного оборудования уходит в специально оборудованные дымовые каналы. При их неисправности продукты неполного сгорания могут попадать в помещение. Вследствие чего может произойти отравление угарным газом. Угарный газ в отличие от бытового газа не имеет запаха и является сильнодействующим ядом.

**Как обнаружить угарный газ? Для этого используются специальные детекторы угарного газа.**

Установите **детекторы угарного газа (датчик CO)** на каждом этаже Вашего дома, вблизи спальных комнат для своевременного предупреждения об опасности.

Обращаем Ваше внимание, что **пожарные извещатели (датчики дыма), датчики (приборы) обнаружения утечки бытового газа не обнаруживают угарный газ**.

Напоминаем, что наличие в воздухе всего 1% угарного газа – смертельная концентрация для человека.

В продуктах сгорания содержится водяной пар, который конденсируется на холодных поверхностях дымохода. В зимний период это может привести к обмерзанию оголовков дымоходов и вентиляционных каналов, их закупорки и как следствие – проникновение угарного газа в помещение.

Среди всех жизненных ценностей, несомненно, самой важной является сама жизнь. Задача каждого человека беречь жизнь и здоровье свое и своих близких людей.

Чтобы избежать несчастных случаев,

**НАПОМИНАЕМ**:

- дымовые и вентиляционные каналы необходимо периодически проверять, а в зимний период регулярно осматривать оголовки указанных каналов для предотвращения их обмерзания;
- дымовые и вентиляционные каналы подлежат периодической проверке и прочистке:

**отопительного газового оборудования** - независимо от материала, из которого они изготовлены,- перед отопительным сезоном.

**проточных газовых водонагревателей** - в зависимости от материала, из которого они изготовлены: кирпичные – не реже 1 раза в 3 месяца; асбоцементные, гончарные, стальные, а также выполненные из специальных блоков жаростойкого бетона – не реже 1 раза в год.

Владельцы жилых домов и квартир, где установлено вышеуказанное газоиспользующее оборудование, **обязаны** вызывать представителя специализированной организации для проверки состояния дымовых и вентиляционных каналов. Получить акт, подтверждающий их исправность

**За нарушение «Правил пользования газом в быту»,** при отсутствии соответствующих актов проверок дымовых и вентиляционных каналов газоснабжающая организация вправе отключить подачу газа потребителю.

Ответственность за исправное состояние вентиляционных и дымовых каналов от газовых котлов и газовых водонагревателей, нарушения требований безопасности при эксплуатации бытового газоиспользующего оборудования возлагается на нанимателя (собственника) жилых помещений и домов.

Уважаемые абоненты не подвергайте свою жизнь и жизнь своих родных опасности.

ПУ «Молодечногаз» УНП 100008077

# Не праспі падпіску на “Рэгіянальную газету”!



ПАДПІСНЫ ІНДЭКС: 63212 (індывідуальная), 632122 (ведамасная падпіска).

## Падпісацца можна:

✓ праз сайт “Белпошты”.

Зарэгіструйцеся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем “афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі”, выбіраем “алфавітны”. Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Цiснем лiтару “Р”, справа гартаем старонкi, пазначаныя сiнiм колерам. Пад індэксам 632122 – “Рэгіянальная газета”.

✓ на пошце,
✓ праз паштальёна
✓ праз плацежна-даведачны тэрмінал

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 3 рублі, на тры месяцы – 9 рублёў.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 9 рублёў, на тры месяцы – 27 рублёў.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

Цана са скідкай на месяц для індывідуальных падпісчыкаў роўная **2,40** рубля, для ведамасных – **8,29**.

**Усе людзі нараджаюцца свабоднымі і роўнымі ў сваёй годнасці і правах. Яны надзеленыя розумам і сумленнем і павінны ставіцца адзін да аднаго ў духу брацтва.**

Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека.

# "У парушэннях дзяцей заўсёды ёсць віна бацькоў"

МАЛАДЗЕЧНА

**Якія небяспечныя захапленні акутуальныя сярод падлеткаў, як засцерагчы дзіця ад праблем з законам і якім чынам дзеці могуць абараніць свае правы.**

Пра гэта распавёў начальнік інспекцыі па справах непаўнагадовых Маладзечанскага РАУС, маёр міліцыі **Аляксей Посах**.

### На "улік" больш не ставяць

Ад ліпеня ўступілі ў сілу змяненні і дапаўненні ў закон "Аб прафілактыцы безнагляднасці непаўнагадовых". Калі раней дзяцей, якіх напаткалі праблемы з законам, ставілі на "улік", то цяпер з імі праводзяць індывідуальна-прафілактычную работу (ІПР). Слова "ўлік" пужае, шкодзіць дзіцяці, лічыць міліцыянер. А галоўнае – не адлюстроўвае тое, што мэта ІДН – дапамагчы дзіцяці знайсці правільны шлях.

Таксама заканадаўцы звузілі пералік артыкулаў кодэкса, паводле якіх з непаўнагадовым праводзяць ІПР. Работу пачынаюць пасля нанясення цялесных пашкоджанняў, перахода ў неналежным месцы на чыгунцы, а вось за знаходжанне на праезжай частцы без флікера – ужо не.

### Небяспечныя гульні, пра якія павінны ведаць дарослыя

Падлеткі найчасцей трапляюцца міліцыі за ўжыванне алкагольных і слабаалкагольных напояў, адурманьваючых рэчываў, часам за дробнае хуліганства. Дзяцей-курыльшчыкаў ловяць радзей.

**Здараліся выпадкі, калі ДАІ затрымлівала падлеткаў 15-17 год, якія не мелі правоў, але былі за рулём.**

Адзін падлетак з раёна за год двойчы трапіўся інспектарам за кіраванне аўто. У першы раз яго затрымалі работнікі падраздзялення "Страла", а другі раз прыехаў на машыне ў Маладзечна.

Яшчэ ў красавіку сярод дзяцей быў бум суіцыдальнай гульні "Сіні Кіт". Па словах начальніка ІДН, на Маладзечаншчыне дзеці толькі цікавіліся ёй, але шкоду сабе не наносілі. Праходзілі этапы, дзе трэба намаляваць канкрэтнае заданне, а да сур'ёзных узроўняў, дзе трэба нашкодзіць ці забіць сябе, не даходзілі..

У маладзечанцаў ёсць гульня з падобным прынцыпам – адно з заданняў у ёй нешта скрасці. Менавіта праз гэта траплялiся падлеткі, якія ў школе лічыліся добрымі вучнямі, нават выдатнікі. Кралі жвачкі, розныя дробязі. Адна дзяўчына скрала 17 тавараў, хлопец – 24. Яшчэ крыху – і па суме скрадзенага хапіла б на крымінальную справу.

**– Для дзяцей гэта жарты, пакуль не даведваюцца, якія наступствы могуць быць,**

– распавядае міліцыянер. – Уявіце, як пасля з гэтым грузам паступаць ва ўніверсітэт. Могуць таксама скласці пратакол на бацькоў за невыкананне бацькоўскіх абавязкаў. Пры гэтым сем'і дабранадзейныя, і раптам на працу бацькам прыходзіць папера, што ім трэба лепш глядзець за дзіцем, якое нешта скрала.

### Чаму спайсы зніклі так хутка

Сёлета правапарушэнняў сярод падлеткаў стала менш у параўнанні з мінулым годам. Пры гэтым Маладзечаншчына – лідар вобласці па правапарушэннях, звязаных з распіццем алкаголю сярод падлеткаў. Было два злачынствы, якія здзейснілі непаўнагадовыя п'янымі – крадзеж і хуліганства. Усяго сёлета 11 крадзяжоў, 4 хуліганствы, 4 угоны, якія ўчынілі дзеці.



Начасцей у дзяцей праблемы з законам узнікаюць тады, калі яны не занятыя, мяркуе міліцыянер.

**Большасць злачынстваў здзяйсняюць навучэнцы, пераважна прыезжыя.**

Міліцыянеры зафіксавалі восем выпадкаў продажы алкаголю непаўнагадовым. Умацоўваецца тэндэнцыя, што не прадаўцы прадаюць алкаголь дзецям, а падлеткі просяць дарослых, якія пагаджаюцца. І атрымліваюць штраф ад 10 базавых велічынь (230 рублёў).

Па наркотыках сёлета не зарэгістравана ні аднаго злачынства, але былі факты ўжывання насвая і клею. Спайсы і іншая сінтэтыка адыходзяць. Бум на сінтэтыку быў сярод падлеткаў 1995-1997 гадоў нараджэння.

– На сыход спайса паўплывала тое, што павялічылі пакаранні – пазбаўленне свабоды ад васьмі год, – мяркуе маёр. – Суды над тымі, каго ўзялі за спайсы, праводзілі паказальна – запрашалі падлеткаў з ІПР, недабранадзейных сямей. Яны ўбачылі, да чаго гэта прыводзіць, расказалі знаёмым.

Сярод тых, хто ўжываў наркотыкі, былі адны хлопцы. А за алкаголь траплялiся і дзяўчаты.

### Як змяніліся забавы дзяцей за некалькі год

– Балявыя кропкі ў працы з дзецьмі пастаянна мяняюцца. Год 10 таму сацсеткі былі, але імі карысталіся студэнты, маладыя спецыялісты, але не дзеці, – кажа Аляксей Посах. – У 2015 годзе пайшлі спайсы. А гады тры таму пачаліся актыўнасці праз сацсеткі, небяспечныя гульні, крадзяжы праз інтэрнэт. Фанацкі рух таксама працуе праз сацсеткі. Раней фанаты ладзілі бойкі, маглі і мінакоў зачапіць. Цяпер яны калі збіраюцца, то паміж сабой. Ісці па горадзе і нахабна біць людзей – такога цяпер няма. Маніторынг у сацсетках дапамагае праводзіць ІПР больш эфектыўна.

**Падлеткі хочуць паказаць сябе перад сябрамі, ад гэтага нікуды не дзенешся. І часам гэта выклікае праблемы.**

### Бацькі павінны дабіцца павагі

Менавіта для таго, каб работа ІДН дапамагала дзецям, а не замінала ў будучым, заканадаўца і змяніў "улік" на ІПР.

– Часцей за ўсё кепскія ўчынкі дзеці робяць проста таму, што не занятыя, – мяркуе начальнік ІДН. – Звычайна адразу відаць дзяцей, якія проста памыліліся, трапілі пад уплыў старэйшых. Быў хлопец, які трапіў на 2 гады ў спецшколу, вярнуўся, закончыў каледж, цяпер працуе. Маці на яго асабліва не ўплывала, хлопец някепскі, але дарослыя сябры сказалі "Пойдзем" – і пайшоў з імі на крадзеж. У правапарушэннях дзяцей найчасцей ёсць вялікая віна бацькоў. Менавіта яны павінны сачыць, каб у дзіцяці быў занятак, каб адпачынак быў арганізаваны – схадзіў у кіно ці на культурныя мерапрыемствы. Іншыя ж бацькі сочаць толькі, каб дзіця пайшло ў школу. А вольны час сам знойдзе, як правесці. Тады і пачынаюцца праблемы. Бацькам трэба дабіцца павагі, каб выхаваць сына ці дачку.

### Спецшкола

Частка падлеткаў пасля правядзення ІПР паўтарае тыя ж памылкі. У такіх выпадках іх могуць накіроўваць у спецустановы закрытага тыпу.

Сёлета з Маладзечанскага раёна накіравалі 5 падлеткаў у спецшколу за крадзеж, хуліганства, алкаголь. Гэта хлопчыкі ад 11 год. Адзін з іх шмат піў, яшчэ пару год – мог бы стаць хранічным алкаголікам.

Некаторыя пасля спецустановы не мяняюць нічога, ёсць тыя, якія мяняюць лад жыцця і кола сяброў.

**Ад 15 кастрычніка працуе новая рэспубліканская тэлефонная дзіцячая лінія 8-801-100-16-11 для аказання дапамогі непаўнагадовым, якія апынуліся ў складанай сітуацыі ці якім патрэбна псіхалагічная падтрымка. Лінія належыць Галоўнаму ўпраўленню аховы здароўя.**



**Зоя ХРУЦКАЯ**
ripenie@yandex.by

# Акцыя "Супергаспадар":

## чытачы газеты могуць і інкубатары зрабіць, і хрушчы спячы

**Акцыя газеты, у якой кожны чытач мог пахваліцца сваімі здольнасцямі і ўменнямі, набліжаецца да фінішнай прамой.**


Удзельнік № 18 Уладзімір Буркевіч


Удзельнік № 13 Вольга Пашкоўская


Удзельнік № 6. Ганна Кічыгіна

У пятніцу, 17 лістапада, на сайце rh.by распачнецца галасаванне за самага гаспадарлівага гаспадара, які і атрымае галоўны прыз – садовы арэлі. Гаспадар ці гаспадыня, якія зоймуць другое і трэцяе месца атрымаюць набор агародніка і набор насення.

Мы ж пакуль вас пазнаёмім з 18 фіналістамі, каб свой выбар рабіць было прасцей.

№1. **Валянціна Бажэлка**, Маладзечна. Валянціне 30 гадоў. Цяпер яна ў дэкрэтным адпачынку. І за гэты час навучылася не толькі спраўляцца з дзецьмі, але і вязаць. Цяпер Валянціна вяжа сваім дзеткам не толькі прыгожыя ўборы, але і цацкі.

№2. **Людміла Грабянёк** з Маладзечна хоць па прафесіі і не звязаная з кулінарыяй, але гатаваць, прызнаецца, любіць з дзяцінства. І сваю сям'ю кожны дзень радуе новымі прысмакамі.

№ 3. А **Ульяна Малікава** з Маладзечна даслала верш, у якім і патлумачыла выбар фота для ўдзелу ў акцыі.

*Як добра, што ў сям'і ёсць*
*гаспадары.*
*І не адзін, не два,*
*а цэлых тры.*
*Муж з дапамогай таты*
*Пабудавалі альтанку*
*каля хаты.*
*Тыдзень шчыра працавалі,*
*Днямі і начамі не адпачывалі.*
*План чарцілі, майстравалі,*
*Потым усё пафарбавалі.*
*Вы запытаеце,*
*хто ж трэці гаспадар?*
*А гэта я – альтанкі ўладар.*
*Працай уважліва я кіравала,*
*Таксама начамі не спала.*
*За працэсам усе*
*знаёмыя сачылі.*
*Потым, канешне,*
*усе адпачылі.*
*Маці на стол ад душы*
*накрывала,*
*У альтанку гасцей*
*дарагіх запрашала.*
*З задавальненнем скажу*
*вам я,*
*Што дружная ў нас сям'я.*
*Усе разам над альтанкай*
*працавалі,*
*А потым верш пісаць*
*дапамагалі.*

№4. **У Анастасіі Суханожкі** з Яхімоўшчыны на падворку растуць апенькі. За сезон, расказвае жанчына, збіраюць некалькі вёдраў. А дачушка **Віка**, якой год і дзесяць месяцаў, дапамагае збіраць ураджай.

№5. Маладзечанец **Юры Савін** таксама збірае ўраджай, толькі не падворку, а на падваконні. Юры больш за 30 гадоў вырошчвае лімоны. Самы вялікі лімон, вырашчаны сёлета, важыў 538 грамаў.

№6. **Ганна Кічыгіна** з Маладзечна лічыць, што нават самым простым побытавым рэчам можна надаць унікальны выгляд. На фота – печка "буржуйка" , якую Ганна аздобіла ўласнымі рукамі.

№7. **Юля Краўцова** з Вілейкі стварае прыгажосць з палімернай гліны і лямца. Для ўдзелу ў акцыі Юля даслала фотаздымак гнома, якога зрабіла ўласнымі рукамі.

№ 8. **Арцём Бурачонак** з Маладзечна даслаў фотаздымак, на якім ён заканчвае будаўніцтва ўласнага дома. Хутка наваселле.

№9. А сям'я **Сцебуракаў** з Маладзечна разам збірае ўраджай, які ў вёсцы Раманаўшчына, што на Валожыншчыне вырасціў дзядуля **Яўген**. Дапамагае яму ўнук **Глеб.**

**№10. Валеры Пячкоўскі** з Ашмянаў разам з фотаздымкам даслаў наступны ліст:

– Доўга думаў, чым можна пахваліцца на конт "супергаспадарання". Для ўнукаў я зрабіў і арэлі, і карусель, і "горку". Планую зрабіць скаладром і канатную дарогу. Для жонкі – парнікі і розныя прылады для кухні, для сябе – бетонамяшалку, электраплуг, цыркулярку. Але, паколькі ўсё маё свядомае жыццё звязанае з электрычнасцю, а тэма энергазберажэння з'яўляецца для нашай краіны вельмі актуальнай, рашыў выкласці на суд грамадскасці сціплае фота ветрагенератара (праўдзівей, ветрагенератарчыка), які працуе ў маёй дамашняй сістэме альтэрнатыўнага электразабеспячэння разам з сонечнымі батарэямі. Сістэма выкарыстоўваецца для асвятлення падворка, гасцёўні, кухні. Пры неабходнасці можа засілкаваць ноўтбук ці невялікі тэлевізар. Каму стане цікава – што ведаю раскажу.

№ 11. Яшчэ адзін "супергаспадар" з Маладзечна зрабіў сваімі рукамі інкубатар. Завуць умельца **Аляксандр Станкевіч**. Аляксандр разам з фотаздымкам прыклаў інструкцыю:

– Інкубатар зроблены з пенапласту. Усе электронныя дэталі былі набыты на адным з кітайскіх сайтаў. Пераварот яек і рэгуляванне тэмпературы ў ім аўтаматызавана. За вясну мне ўдалося вывесці гусей, курант і качак.

Цяпер Аляксандр займаецца вырабам мінітрактара, з дапамогай якога будзе лягчэй весці сельскую гаспадарку ў вёсцы ў бацькоў.

№12. А вось **Марыя Міцкевіч** для ўдзелу ў акцыі выбрала фотаздымкі сваіх бацькоў – **Аксаны і Міхаіла.** Матуля Марыі вырошчвае дэкаратыўныя кветкі. У доме – 17 гатункаў адной толькі герані, гэта не гаворачы пра іншыя кветкі. А зімой, калі ў агародзе праца спыняецца, Аксана Міцкевіч вяжа сурвэткі і абрусы.

– Але галоўнае, – піша Марыя, – што ва ўсіх справах маме дапамагае тата. Тата капае – мама садзіць, тата Прыбівае паліцы – мама растаўляе слоічкі, тата размотвае пражу – мама вяжа сурвэткі.

№ 13. **Вольга Пашкоўская** з Краснага гэтай восенню без працы не сумавала. Закатала шмат грыбоў. Вольга кажа, што калі пераможа ў акцыі, падзеліцца з чытачамі рэцэптам самых смачных у свеце марынаваных грыбоў.

№ 14. **Роза Шэрая** даслала фотаздымак свайго мужа **Васіля**, на якім ён аздабляе балясінамі ганак.

– Ён у мяне майстар на ўсё рукі: можа і карціну намаляваць, і мэблю сваімі рукамі зрабіць. А каб праца спорылася, яшчэ і заспявае.

№ 15. **Тамара Ляшкевіч** валодае засакрэчаным рэцэптам хрушчоў. Гэты рэцэпт Тацяне дастаўся ад маці, якая пра яго дазналася ў 30-я гады ў Польшчы. З тых часоў гэты рэцэпт перадаецца з пакалення ў пакаленне. І лічацца, калі вы не жанчына з сям'і Ляшкевіч, у вас ніколі не атрымаецца такія карункавыя і хрумсткія хрушчы.

№ 16. Студэнтка **Дар'я Рудзёнак** з Вілейкі толькі вучыцца вышываць. Глядзіце, якая праца "Замілаванне летам" у яе атрымалася.

№ 17. **Віктар Харытон** з Краснага вырошвае гарбузы. На фотаздымку яго ўнучка Паліна прымярае на сябе вобраз Папялушкі. Спадзяемся, што яе гарбуз ператворыцца ў сапраўдную карэту.

№ 18. А гэты фотаздымак даслаў нам **Уладзімір Буркевіч** з Ільі. Вова прызнаўся, што яго мама нават не ведае пра гэта.

– Я хачу расказаць пра сваю любімую матулю. Мая мама шмат усяго умее – шые, вяжа, смачна гатуе. Мы з братам Ягорам любім, як мама нам гатуе снеданкі, абеды, вячэры. Бо гатуе яна для нас з любоўю і натхненнем. Вельмі смачна ў яе атрымліваецца і пірагі, і супы, і разнастайныя блінцы і фаршаваныя стравы. Мама паставіла прыкладна 350 слоікаў нарыхтовак на зіму. Ягор паступіў ва ўніверсітэт фізкультуры ў Мінску і жыве ў інтэрнаце, а закаткі там ідуць на ура. Яшчэ мама увесь свой вольны час займаецца шыццём, вязаннем (вяжа шапкі, сумкі, шалі, пледы, сукенкі, сурвэткі і многае іншае), робіць упрыгожанні з атласных стужак, вышывае. А яшчэ ў мамы ёсць хобі – яна збірае імбрыкі.

Жадаем усім нашым удзельнікам удачы і перамогі. Сочым за вынікамі разам з вамі.

**Наталля ТУР.**

## Пераможцаў аказалася больш, чым планавалі

**13 лістапада "Рэгіянальная газета"падвяла вынікі акцы.**

Адразу ў дзвюх намінацыях перамог фотаздымак. Ён стаў лепшым па выбары рэдакцыі і ў намінацыі "Фота, дзе адлюстравана тэма "Рэгіянальнай газеты".

У якасці прыза фота дзяўчынкі ў вышыванцы, 9-гадовай маладзечанкі **Стафаніі Коршук,** мы размесцім на нашым фірмовым календары за 2018 год. Сцяпан Коршук, які даслаў здымак, атрымае лічбавую фотарамку і набор сувенірнай прадукцыі ад нашай газеты.

Усяго на сайце прагаласавала 1969 чытачоў, 36% з іх за Арцёма Бурачонка. Такім чынам, паводле лепшым стаў фотаздымак з Маладзечна, дзе цалуецца маладая пара. Па ўмовах акцыі, Арцём атрымлівае набор цукерак.

Падчас галасавання ў рэдакцыі мы вырашылі, што неабходна адзначыць яшчэ два здымкі.

Другое месца – у віляйчаніна Ён даслаў здымак, зроблены ў Пецергофе. Бронза – у навучэнкі з Маладзечна за фотаздымак восеньскай прыроды. За другое і трэцяе месца мы таксама ўручым наборы шакаладных цукерак.

17 лістапада ў 15:00 усіх пераможцаў мы запрашаем у рэдакцыю для ўручэння падарункаў.

**Калектыў "Рэгіянальнай газеты".**

# Альгерд Бульба: як аўтар "Нашай нівы" стаў віцэ-бурмістрам Вільні

**СМАРГОНЬ**

**Нараджэнне 10 (23) лістапада 1906 года "першай беларускай газеты з рысункамі" паклала пачатак новаму перыяду ў гісторыі Беларусі і за вельмі кароткі час стала значным культурным асяродкам, нацыянальнай школай асветніцтва.**






Партрэт Альгерда Бульбы.

Карта пачатка 20 стагоддзя.

На старонках газеты фармулявалі галоўныя ідэі і перспектывы нацыянальнага адраджэння, закладвалі асноўныя накірункі развіцця беларускай мастацкай літаратуры.

У ёй працавала і друкавалася цэлая пляяда такіх інтэлектуалаў, як Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Вацлаў Ластоўскі, Змітрок Бядуля, Ядвігін Ш, Цётка, Альгерд Бульба і шмат іншых знакамітасцяў.

Рыхтуючы матэрыял пра земляка з Ашмянскага краю, грамадскага-культурнага дзеяча, віцэ-прэзідэнта Вільні, супрацоўніка "Нашай Нівы" **Вітольда Чыжа** звярнуў увагу на недакладнасць у вызначэнні месца яго нараджэння. Некаторыя даследчыкі фальварак Антонішкі, дзе 15 жніўня 1884 года з'явіўся на свет Чыж, атаясамляюць з аднайменным населеным пунктам у Астравецкім раёне. На самой справе, радзіннае месца дзеяча знаходзіцца на тэрыторыі Смаргоншчыны.

## Узгадкі пра Стымонь

Пацверджанне здагадкі пра месцазнаходжанне Антонішак было знойдзена ў першым томе грунтоўнай манаграфіі "Павет Ашмянскі" **Чэслава Янкоўскага**, выдадзенай ў 1896 годзе. Апавядаючы пра Стымоні паважаны даследчык адзначыў: "У 1788 годзе **Антоні Маркевіч** прадаў Талмуцішкі ашмянскаму ротмістру **Станіславу Чыжову**, сённяшняму ўладальніку цэлых Стымонь. (Паводле дакументаў у Карпуцішках Лісецкіх пад Барунамі). Стымоні знаходзяцца сярод гарыстай, камяністай, глухой, перакрэсленай дробнымі сцежкамі, ўсеянай гаямі аколіцы, уласнасць сёння Чыжоў".

Больш канкрэтныя звесткі прывёў у 1905 годзе І. Гашкевіч у даведніку "Віленская губернія". Поўны спіс населеных месцаў са статыстычнымі дадзенымі аб кожным паселішчы". На той час фальварак Антонішкі, які належаў Чыжу, знаходзіўся ў Куцавіцкай воласці, складаўся з 194 дзесяцін зямлі, у ім пражывала 4 асобы мужскога полу і столькі ж жаночага. Узгадваецца населены пункт з такой назвай у 1930 годзе ўжо ў вясковай Куцавічскай гміне, складаецца з аднаго жылога будынка і 7 жыхароў. У пасляваенны час тапонім Антонішкі не сустракаецца ў афіцыйных дакументах.

## Пасадзілі за пагрозу звяржэння царызму

Звернемся да некаторых вядомых фактаў біяграфіі земляка. Пасля вучобы ў Ашмянскім паравтовым вучылішчы Чыж у 1905 годзе вядзе актыўную агітацыю супраць царызму. Як узгадваў адзін з тагачасных беларускіх дзеячоў, "у Ашмянскім павеце гудзела ад беларускіх рэвалюцыянераў **Аляксандра Барановіча** і Чыжа".

Напрыканцы 1905 года Вітольд быў арыштаваны і аддадзены пад суд. І хаця ў абвінаваўчым акце, які быў складзены 17 красавіка 1906 года, адзначалася: "Вітольд Чыж вінаватым сябе не прызнае, паясняючы, што ў час надрукавання Найвышэйшага Маніфеста ад 17 кастрычніка 1905 года ён яшчэ не ўваходзіў ні ў адну палітычную партыю… Будучы ворагам усялякага насілля і крыві, ён, маўляў, не толькі не падбухторваў да беспарадкаў, але, наадварот, імкнуўся ад падобнага стрымацца".

Але ўсё ж шляхціц Вітольд Станіслававіч Чыж быў абвінавачаны ў спробе звяржэння існуючага ў Расіі грамадскага ладу. Некаторы час правёў у турме, пасля чаго з'ехаў у Львоў і паступіў у мясцовы палітэхнічны інстытут.

Захварэўшы на сухоты, лячыўся ў Закапанэ, дзе якраз лячылася беларуская паэтэса і грамадская дзеячка **Алаіза Пашкевіч** (Цётка). Несумненна, што Цётка ў той час сябравала з гэтым студэнтам Львоўскай палітэхнікі. На аснове жыцця і творчасці славутай паэткі, з-пад пяра пісьменніцы **Валянціны Коўтун** у 1988 годзе выйшаў раман "Крыж міласэрнасці". На старонках вострасюжэтнай кнігі ажывае шмат знакамітых людзей пераломнай эпохі, у тым ліку Вітольд Чыж, ўзгадваюцца Антонішкі і іншыя нашыя мясціны.

## Рэцэнзаваў Купалу і пісаў пра дзявочую вопратку

Пасля заканчэння будаўнічага факультэта Львоўскага палітэхнічнага інстытута і атрымання дыплома інжынера Чыж нядоўга працаваў на пабудове электрастанцыі ў Варонежы, вёў беларускі аддзел у кіеўскім польскамоўным часопісе ўкраінскага дзеяча Ліпінскага "Пшэглёнд краёвы". На працягу 1908-1911 гадоў уваходзіў у рэдакцыю "Нашай Нівы", быў блізкі да яе кіраўнікоў і вядомы ў беларускіх колах пад псеўданімамі Альгерд Бульба, Чыж-Гідальга, Чыжык Ашмянскі.

Актыўна выступаў ад 1910 да 1911 год на старонках газеты з крытычнымі і публіцыстычнымі артыкуламі, для большасці з якіх характэрна дэмакратычная пазіцыя. З'яўляўся "літаратарам шырокага дыяпазону" – крытыкам, празаікам, аўтарам шматлікіх артыкулаў і рэцэнзій на тэмы літаратуры, музыкі і тэатра. Гэта ён пераклаў на беларускую мову ў пачатку стагоддзя папулярныя апавяданні М. Ляскова, Р. Данілеўскага, Л. Андрэева, І. Гарбунова-Пасадава. У 1911 годзе падрыхтаваў і выдаў у Вільні брашуру "Колькі слоў аб дзявочай вопратцы ў Беларусі", якая была станоўча ацэнена Вацлавам Ластоўскім.

Альгерд Бульба быў аўтарам першай рэцэнзіі на другі зборнік паэзіі Янкі Купалы "Гусляр". Рэцэнзент выказаў глыбока аптымістычную веру ў вялікую будучыню Купалы як нацыянальнага паэта, адзначыўшы: "Ва ўласных самабытных творах Купала не мае роўных сабе... Веру, што далейшай самабытнай творчай працай Янка Купала зойме ў нас адно з першых месц". Адзін з першых падтрымаў пазіцыю **Сяргея Палуяна** ў яго барацьбе за прызнанне Максіма Багдановіча як народнага паэта.

## Стаў віцэ-бурмістрам Вільні

Працуючы ў Віленскім сельскагаспадарчым таварыстве браў чынны ўдзел у арганізацыйным камітэце і ў працы Першай краёвай выставы дробнага промыслу і народнага мастацтва Літвы і Беларусі, якая распачала сваю дзейнасць 1 (14) верасня 1913 года ў Вільні. Прыкладна ў гэты час Чыж паступова аддаляецца ад "Нашай Нівы", адыходзіць ад беларускага руху. Што стала прычынай таму, можна толькі здагадвацца.

Пасля Першай сусветнай вайны займаў розныя пасады ў адміністрацыі Вільні, з 1927 года па 1934 год з'яўляўся віцэ-прэзідэнтам горада. Што цікава, калекцыя Віленскага мастацкага музея пачыналася з працы таленавітага заходнебеларускага мастака **Кузьмы Чурылы** "Партрэт віцэ-бурмістра Вільні Вітольда Чыжа".

## Праз Афрыку і Англію – у апошні дом

Трагічнай старонкай у біяграфіі Чыжа запісаны годы Другой сусветнай вайны. У чэрвені 1941 года, разам з іншымі арыштаванымі віленскімі грамадска-культурнымі дзеячамі, яго вывезлі да лагера Рэшоты ў Краснаярскі край. Потым Вітольд з польскім войскам праз Ірак, Паўднёвую Афрыку трапляе ў Англію. У пасляваенны час вярнуўся ў Польшчу, жыў ва Уроцлаве, дзе і памёр 15 жніўня 1952 года.

На першай старонцы першага нумара "Нашай Нівы" у 1906 годзе змяшчаўся зварот да чытачоў, дзе было адзначана: "Мы будзем служыць усяму беларускаму народу, пастараемся быць люстрам жыцця, каб ад нас, як ад люстра, свет падаў у цёмнасць… Мы будзем браць усё ад усіх і, злажыўшы ў парадак, зноў аддаваць".

Менавіта такіх поглядаў прытрымліваўся Вітольд Чыж у пачатковы перыяд супрацоўніцтва з газетай і таму яго праца ў гэты час была не толькі плённай, а мела станоўчы водгук.

**Уладзімір ПРЫХАЧ,**
**Смаргонь.**

## КАЛЯНДАР

**17 ЛІСТАПАДА**

**1906.** У в. Гібернята (цяпер Валожынскі раён), нарадзіўся **Янка Багдановіч,** беларускі празаік, паэт, публіцыст. Публікаваўся з 1930. У 1952 – незаконна рэпрэсаваны савецкай уладай. Памёр 13 ліпеня 1990 ў Вільні.

**18 ЛІСТАПАДА**

**1918.** Абвешчана незалежнасць Латвіі.



**1952.** Нарадзіўся (в. Дубашы Валожынскага раёна) **Эдвард Зайкоўскі**, археолаг, кандыдат гістарычных навук. Даследуе помнікі неаліту і бронзавага веку, паганскія вераванні і першабытнае мастацтва на тэрыторыі Беларусі.

**19 ЛІСТАПАДА**

**1982.** Каманда "Дынама" (Мінск) стала чэмпіёнам СССР па футболу.

**20 ЛІСТАПАДА**

**1985.** Кампанія Майкрасофт упершыню прадставіла аперацыйнае асяроддзе Windows, версія 1.0.

**21 ЛІСТАПАДА**

**1920.**Пачалося Слуцкае паўстанне. Дэкларацыя з заклікам да барацьбы за незалежную Беларусь.

**22 ЛІСТАПАДА**



**1954.** У Ільі нарадзілася **Святлана Марозава** (Палуцкая), беларускі гісторык, доктар гістарычных навук (2003), прафесар Гродзенскага Дзяржаўнага Універсітэта.



**23 ЛІСТАПАДА**

**2007.** Мінскай вобласці нададзены герб і сцяг.

**Падрыхтаваў**
**Мікола ГАЙДУК.**

МІЖНАРОДНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА: БЕЛАРУСЬ-ГЕРМАНІЯ

# Вёз куртку, італьянскі абутак... і кніжкі

## Паэт і перакладчык з Вілейшчыны – пра першыя ўражанні ад Нямеччыны

ВІЛЕЙКА

**Сёння ў бібліяграфіі паэта і перакладчыка, ураджэнца Вілейшчыны Уладзіміра Папковіча пераклады з нямецкай на беларускую Шылера, Рэмарка, Гаўфа, Крафта.**

А вывучаць нямецкую мову Уладзімір Антонавіч пачаў у хаценчыцкай школе-сямігодцы.

Гэта быў пачатак 1940-1950-х гадоў. Пасля Вялікай Айчыннай вайны нямецкая мова не была асабліва папулярнай для вывучэння.

– Некім было вызначана, што вясковыя дзеці павінны вучыць нямецкую, – прыгадвае Уладзімір Папковіч. – І стаўленне да яе было адпаведнае. Я не памятаю прозвішча настаўніка, які выкладаў нямецкую мову. Гэта быў нехта з франтавікоў ці партызанаў. Імя ў яго было **Савелій**, а мы называлі яго проста Саўкам.

Ва Уладзіміра Папковіча былі ў асноўным чацвёркі па ўсіх прадметах, за выключэннем Канстытуцыі СССР, якую выкладаў той самы Саўка. Па Канстытуцыі ў яго была “тройка”.

Будучы паэт быў самы меншы ў сям'і, не вельмі спрытны ў сялянскай працы. Таму сям'я вырашыла: няхай вучыцца.

І ад 1950 да 1953 года хлопец працягнуў вучобу ў ільянскай дзесяцігодцы. Нямецкую мову тут выкладаў **Іван Канстанцінавіч Зайцаў**. Былы вучань запомніў яго як вельмі добрага і справядлівага чалавека:

– Засталася ў памяці яго вызначэнне адносна мяне: “Чалавек, які смяецца...” Тады я не ведаў, адкуль гэта... Івана Канстанцінавіча я аднойчы сустрэў у Іллі, і ён засмяяўся: “А што – я выкладаў нямецкую мову?”

### Выбар прафесіі журналіста не падтрымала каханая дзяўчына

Калі прыйшоў час выбіраць прафесію, юнак хацеў падацца ў журналісты або пісьменнікі.

Але дзяўчына, што дужа падабалася, не падтрымала:

– Ні ў якім разе! Журналісты і пісьменнікі – п'яніцы.

Таму абітурыент адаслаў дакументы на факультэт беларускай мовы і літаратуры. Там ён здаў сем экзаменаў: два па беларускай мове і літаратуры, два па рускай мове і літаратуры, па гісторыі і геаграфіі ды нямецкай мове.

Але не прайшоў паводле конкурсу: былі чатыры “чацвёркі” і тры “пяцёркі”:

– І мне парадзілі, а нас было шмат вяскоўцаў, якія не паступілі ў БДУ, паспрабаваць “тыцнуцца” ў ін'яз, бо там былі адны дзяўчаты, а хлопцаў бралі па-за конкурсам.

Абітурыента з Вілейшчыны прынялі. Ён ізноў здаў тыя сем экзаменаў (у другім патоку). Але пачынаў вучыцца ў ін'язе без стыпендыі, бо ўступны экзамен па беларускай мове здаў на тройку. Такі быў закон: тройка – стыпендыі няма.

Студэнцтва прыйшлося на 1953-1958 гады. Большасць з выкладчыкаў ужо былі ў ГДР, у Аўстрыі, працавалі вайсковымі перакладчыкамі і журналістамі. Яны, калі адкрыта, калі ў досціпных аповядах, у анекдотах пасмейваліся з савецкага ладу.

З трэцяга курса Уладзімір Папковіч працаваў лабарантам кабінета нямецкай мовы. У кабінеце стаяла шафа, поўная усялякай нямецкай літаратуры, творамі нямецкіх пісьменнікаў, якіх у той час амаль ніхто не ведаў. І ў вольны час студэнт чытаў па-нямецку.

Па словах майго субяседніка, здольнасці да моваў ён меў выдатныя. Амаль ніколі нічога не вучыў, але лічыўся “лепшым”.

Шмат хто з аднагрупнікаў ведаў мову лепш, чым студэнт Папковіч. Напрыклад, былі дзяўчаты, вывезеныя ў час вайны ў Германію.

### У якую краму везці? У кнігарню!

У канцы 1970-ых гадоў Уладзімір Папковіч упершыню трапіў у Германію. Ён працаваў выкладчыкам нямецкай мовы ў індустрыяльным тэхнікуме ў Віцебску.

Яму патэлефанавалі і прапанавалі паехаць з камсамольскай групай у Франкфурт-на-Одэры. У той час – горад-пабрацім Віцебска.

Асаблівых уражанняў ад той першай паездкі ў паэта не засталося. Прыгадаў, што купіў сабе куртку а жонцы і дочкам




Выкладчык Уладзімір Папковіч са студэнтамі падчас заняткаў нямецкай мовай.

Фота з архіва Уладзіміра ПАПКОВІЧА.

– італьянскі абутак. У часы савецкага дэфіцыту гэта былі істотныя для сям'і набыткі.

Пасля падарожжы ў Германію былі на працягу 20 год. Вельмі ўражвалі ўвесь час нямецкія аўтабаны і тое, як лёгка і роўна коціцца аўтобус па іх.

А ў 1989 годзе мой субяседнік лётаў у Нямеччыну на самалёце. Тады ён быў у складзе афіцыйнай групы па прымірэнні паміж народамі СССР і ФРГ. Уладзімір Антонавіч жыў у сям'і **Хайнэкэ**, у маленькім гарадку Браўнфэльс, калі сказаць панашаму – раённым цэнтры.

– Аднойчы мае гаспадары, сям'я Хайнэкэ, – прыгадвае Папковіч, – сказалі мне, што сёння – дзень пакупак і наведвання крамаў.



З нямецкімі фехтавальшчыцамі ў Мінску ў канцы 1950-х-1960-х гадах.

Фота з архіва Уладзіміра ПАПКОВІЧА.

**Ці ўяўляеце вы, што такое была нямецкая крама для савецкага чалавека ў 1989 годзе? Асабліва для жанчын. І некаторых мужоў.**

“У якую краму вы хочаце?”, – спытала мяне фраў Хайнэкэ. “У кнігарню!”, – адказаў я.

Што ж, у кнігарню, дык у кнігарню. Беларускага госця прывезлі туды і пакінулі. Прадавачка **фраў Кункэль** сустрэла яго гасцінна, завяла ў свой склад-закутак, згатавала чаю, дала печыва і прапанавала даволі вялікі стос кніг для знаёмства. Сама пайшла на залу працаваць.

– Я піў гарбату і перабіраў кнігі. Цяпер не ведаю нават, якія аўтары там былі, ці ведаў я хоць каго-небудзь з іх. Мы ж у ін'язе чыталі ў асноўным сацыялістычную літаратуру, якая выдавалася ў ГДР, – успамінае Уладзімір Антонавіч.

Беларускі госць хапаўся то за адну, то за другую кніжку, потым за кашалёк, прыпамінаючы, колькі тых марак ёсць у яго. А за тыя маркі хацелася б купіць гасцінцаў для жонкі і дзяцей.

Урэшце ўзяў кніжку **Навума Гольдмана** “Яўрэйскі парадокс. Сіянізм і яўрэйства пасля Гітлера.” Чаму? Кажа, было цікава пачытаць пра яўрэйства знутры.

Кніжка каштавала 14.80 нямецкіх марак, а на касе сказалі – восем.

– Для мяне гэта было дзіва дзіўнае, што за тавар можна плаціць менш, чым на цэнніку, – дзеліцца перакладчык. – А тут фраў Кункэль сама вырашала, бо яна – прыватніца і цану прызначала сама.

Гэта была яго першая кніжка з Заходняй Германіі. Другая – падарунак ад **Лоры Гэрстэр**, актывісткі руху за прымірэнне паміж народамі, удзельніцы чарнобыльскіх ініцыятываў. Потым іх таварыства падтрымлівала ўстойлівыя адносіны з Валожынам.

Лора падарыла госцю з Беларусі кніжку **Гудрун Паўзэванг** “Хмара”, якая і цяпер стаіць на паліцы ў кватэры Папковіча навідавоку.

Кніжка была напісана пад уздзеяннем Чарнобыльскай трагедыі. Выкладчык пасля замовіў яе 15 асобнікаў для хатняга чытання студэнтаў.

Гэта кніжка – “змрочная” фантазія на чарнобыльскую тэму: быццам жудасная ядзерная катастрофа адбылася на адной з АЭС у Нямеччыне.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99
(працоўны)

# "Па Беларусі сумуем, але ў бурлівай Украіне адчуваем сябе ўтульна"

## Жыхарка Кіева прыгадвае, як жыла і працавала доктарам у Валожыне

АШМЯНЫ, ВАЛОЖЫН, МАЛАДЗЕЧНА

**Як усё жыццё адпрацаваць дзіцячым доктарам, а з выхадам на пенсію рэзка змяніць не толькі сферу дзейнасці, але і краіну пражывання?**

Такім досведам можа падзяліцца мая субяседніца, ураджэнка Ашмянаў, а сёння – жыхарка Кіева – **Галіна Сарочык.**

Нарадзілася Галіна Васільеўна ў Ашмянах. Праўда, зусім маленькай пераехала з бацькамі на радзіму мамы – на Іўеўшчыну. Тут, у вёсцы Бакшты, мама працавала загадчыцай магазіна, а бацька выкладаў працу ў школе.

Тым не менш, калі дзяўчына скончыла школу, яна не ўбачыла сябе ні ў адукацыі, ні ў гандлі. Вырашыла паступіць у мінскі медінстытут.

– У сям'і з медыцынай была звязаная толькі цётка, якая працавала медсястрой. – Я ж заўсёды лічыла прафесію доктара самай гуманнай. У пэўны час зразумела, што хачу лекаваць людзей, а асабліва маленькіх людзей.

Пасля заканчэння інстытута працавала ў Лідзе, Мінску, Карэлічах, адзін год – у маладзечанскай дзіцячай бальніцы.

### Неанатолагу ў валожынскай бальніцы давяралі заўсёды

Чаму ў 1989 годзе Галіна Васільеўна з сям'ёй пераехала ў невялічкі Валожын? Гэтага даўно ўжо хацеў муж. Сам ён родам з хутара Гуньбаўшчына, што на Валожыншчыне, таму на малую радзіму даўно імкнуўся.

На маё пытанне пра тое, ці не сумна было ў Валожыне маладой сям'і, Галіна Васільеўна адказала:

– Ды што вы?! Валожыншчына – дужа цікавая мясціна. Тут файная прырода, мясціны графа Тышкевіча. Да таго ж у мужа там быў цудоўны хутар. Яшчэ нам хапала часу і грошай, каб штогод летам ездзіць да мора ў Еўпаторыю.

У 1989-1999 годзе мая субяседніца працавала спачатку неанатолагам у радзільным аддзяленні валожынскай бальніцы, потым – загадчыцай паліклінікі.

– Хоць я была адноснa маладым доктарам, да маёй думкі заўсёды прыслухоўваліся, давяралі, давалі поўную свабоду, – прыгадвае Галіна Васільеўна. – А яшчэ тут паважалі дактароў, якія імкнуліся да новага, увесь час павышалі кваліфікацыю. У калектыве было ўзаемапаразуменне.

### Бацькі хворых дзяцей прыязджалі і ноччу

У гады працы Галіны Сарочык у Валожыне сюды ехалі пераймаць досвед неанатолагі з усёй Мінскай вобласці. Прыязджалі і прафесары з Інстытута аховы мацярынства і дзяцінства.

Бо павучыцца было чаму. У Валожыне дактары пачалі выходжваць вельмі маленькіх неданошаных дзяцей, якія нараджаліся з вагой да кілаграма.

За многімі з такіх дзяцей Галіна Васільеўна як доктар сачыла на працягу доўгіх гадоў: ведала, як яны развіваюцца, вучацца ў школе:

– Да сённяшняга дня згадваю аднаго неданошанага хлопчыка, якога выхадзілі ў Валожыне. Пасля ён вельмі добра вучыўся ў школе, скончыў яе з залатым медалём і паступіў на святара.

Усё жыццё доктар працавала на паўтары стаўкі. У невялічкім Валожыне ведалі, што заўсёды могуць звярнуцца да доктара. Часта бацькі хворых дзяцей прыязджалі і ноччу. Колькі разоў і з лазні мяне забіралі, і з банкета, прыгадвае Галіна Васільеўна.

Менавіта ў Валожыне Галіна Сарочык зацікавілася беларушчынай. Прыгадвае, што з калегамі сачылі за палітычнай сітуацыяй у краіне, разам слухалі радыё.

### Трапіла ў сталіцу і расчаравалася

Але ў 1999 годзе сям'я пакідае Валожын. Мужа Галіны Васільеўны, кіраўніка будаўнічай арганізацыі, павысілі па працы, і за ім сям'я мусіла з'ехаць у сталіцу.

Праз 20 год доктар апынулася ў той клініцы, дзе некалі пачынала працаваць і… расчаравалася:

– За гэты час тут амаль нічога не змянілася. Так, кабінеты былі абсталяваны добра, але для лячэння хворых выкарыстоўвалі такія старыя метады, якімі ў Валожыне мы ўжо даўно не карысталіся.

Да таго ж тут не было ў доктара той самастойнасці, што яна мела на Валожыншчыне, дзе слову спецыяліста-неанатолага заўсёды давяралі. Кіраваліся такім прынцыпам: калі неанатолаг сказаў, значыць так трэба.

У Валожне быў вольны дух, кажа мая субяседніца. А ў сталіцы яго не было. Таму Мінск не пакінуў Галіне Васільеўне прыемных успамінаў.

Пасля працы ў трэцяй клінічнай бальніцы і рэабілітацыйным цэнтры для дзяцей Чарнобыля прайшла перападрыхтоўку і стала рабіць ультрагукавое даследаванне. Новая праца зацікавіла, з яе і пайшла на пенсію.

### Як ва ўкраінскай кавярні падавалі беларускую верашчаку

У 2011 годзе разам са старэйшай дачкой **Юляй** Галіна Васільеўна з'язджае на Украіну. Дачка скончыла кіеўскі ўніверсітэт па спецыяльнасці "рэстаранны бізнес" і ў 2012 годзе разам з мамай адчыніла беларускую кавярню ў Кіеве.

– Мы задумалі не проста кавярню, якіх шмат, а своеасаблівы беларускі асяродак, – распавядае Галіна Васільеўна. – У нас было дзве залы. Адна прыбраная ў чырвоныя і белыя колеры, другая – у жоўтыя і блакітныя. Сваім наведнікам мы падавалі беларускія стравы: квас, верашчаку, мачанку, дранікі. У кавярні гучала беларуская музыка.

Па словах маёй субяседніцы, "Панскія пляцкі" (так называлася кавярня) ведалі беларусы, якія жылі ў сталіцы Украіны або прыязджалі сюды. Прыходзілі, сустракалі аднадумцаў. Кавярня працавала ў 2012-2013 гадах. Пасля эканамічныя ўмовы скла́ліся так, што мусілі зачыніцца. А падчас падзей на майдане Галіна Васільеўна і дзве яе дачкі прывозілі сюды ежу.

– Украінцы – вольналюбівыя людзі, – перакананая Галіна Сарочык. – Мы таксама вольналюбівыя, таму і дапамагалі майданаўцам.

Па словах Галіны Васільеўны, Украіна ніколі не была для яе чужой. Шмат сваякоў жыло на Гомельшчыне, а там нават мова да ўкраінскай падабная.

### Ва Украіне вельмі любяць беларускую мову

Дарэчы, што да мовы, то маёй субяседніцы амаль і не трэба было яе вучыць спецыяльна. Кажа, што ўкраінцы не толькі разумеюць беларускую мову, але і любяць яе. Просяць, каб Галіна Васільеўна размаўляла не па-ўкраінску, а па-беларуску. Таму яна час ад часу ўжывае толькі асобныя ўкраінскія словы.

Тры месяцы ў Кіеве існуе арганізацыя "Сябры", якой кіруе Галіна Сарочык. "Сябры" маюць уласнае памяшканне.

У арганізацыю ўваходзяць беларусы Кіева і ўкраінцы, якія цікавяцца гісторыяй і культурай Беларусі. Арганізатары запрашаюць на сустрэчы беларускіх паэтаў, ладзяць лекцыі па краязнаўству і гісторыі Беларусі, распявдаюць пра выбітных людзей.

– Сочым за падзеямі ў Беларусі, перажываем, інфармацыю размяшчаем у суполцы ў фэйсбуку. Па Беларусі сумуем, аднак у бурлівай Украіне адчуваем сябе ўтульна, – дзеліцца Галіна Васільеўна.

Галоўнай сваёй задачай "Сябры" лічаць інфармаванне ўкраінцаў пра Беларусь. Бо сёння, па назіраннях Галіны Васільеўны, на Украіне пра Беларусь ведаюць мала. Кажуць толькі тое, што там добрыя дарогі і чыстыя гарады.

Нядаўна мая субяседніца была па справах у Беларусі. Пагасціла менш, чым разлічвала: у сяброўкі на сённяшняй вайне ва Украіне загінуў сын, таму мусіла вяртацца.

На радзіму на заўсёды? Адназначна – не. Упэўненая: не змагла б тут знайсці сябе.

Хоць сувязі з Валожынам жанчына не страціла і сёння. Тут жыве мама Галіны Васільеўны.

А дзесяць год жыцця і працы ў гэтым беларускім гарадку, па словах Галіны Сарочык, сталі самай светлай згадкай у яе жыцці.



Фота fb.com.

Галіна Сарочык (злева) з сяброўкай Аленай у Кіеве падчас святкавання Дня незалежнасці Украіны.




Фота fb.com.

Кавярня "Панскія пляцкі" была асяродкам беларускасці ў Кіеве.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)

НАВІНЫ

## Маладзечанцы прывезлі золата па грэка-рымскай барацьбы

МАЛАДЗЕЧНА

Зборная каманда Маладзечанскага раёна па грэка-рымскай барацьбе ўдзельнічала ў міжнародным турніры ў Беразіно OPEN 2017 2-4 лістапада. На яго паехалі спартсмены ўзроставых катэгорый 2005-2008 гады нараджэння і 1999-2000.

Прадстаўнікі Маладзечна прывезлі "золата". **Арцём Валасковіч** перамог ў вазе да 80 кілаграмаў, **Вадзім Дайноўскі** атрымаў "бронзу" ў вазе да 26 кілаграмаў.

На турніра прыехалі 407 спартсменаў з 35 каманд з Валгаграда, Вільні, Калінінграда, Ніжняга Ноўгарада і розных гарадоў Беларусі.

## 18 лістапада стартуе чэмпіянат Гродзенскай вобласці па міні-футболе

СМАРГОНЬ, АШМЯНЫ, АСТРАВЕЦ

У чэмпіянаце Гродзенскай вобласці па міні-футболе сезона 2017-2018 года возьмуць удзел 11 каманд: "Атам"і "Мелізратар-Stars" з Астраўца, каманда "Ашмяны", смаргонская каманда "Мядзведзі". Акрамя таго, каманды з Навагрудка, Краснасельскага, Ваўкавыску, Мастоў, Слоніма, каманда з Квасоўкі і каманда, якая прадстаўціь Гродзенскі раён.

**Аддзел інфармацыі.**

## У ліку мацнейшых валожынскія тэнісісты

З 30 кастрычніка па 1 лістапада ў Барысаве прайшла спартакіяда ДЮСШ Мінскай вобласці па настольным тэнісе сярод юнакоў і дзяўчат 2005 г. н. і маладзейшых.

Па выніках спаборніцтваў навучэнцы ДЮСШ Валожынскага раёна **Ягор Шчогалаў** і **Уладзіслаў Адашкевіч** у камандным заліку занялі 2-е месца, дзяўчаты **Дзіяна Ліхтаровіч** і **Лізавета Сучкевіч** – 3-е месца. У асабістым першынстве сярод юнакоў 2-е месца дасталося Уладзіславу Адашкевічу, 3-е – Ягору Шчогалаву. Сярод дзяўчат 1-е месца заняла Дзіяна Ліхтаровіч.

Падрыхтавалі каманду тэнісістаў Валожынскага раёна трэнеры-выкладчыкі **Дзмітрый Ажарэльеў і Дзмітрый Пазнякоў**.

**Вольга КАЧАЛКА, метадыст ДУ "ДЮСШ Валожынскага раёна".**

# ДЮСШ -4: кот Опель і выпускнікі, якія гуляюць у вышэйшай лізе

МАЛАДЗЕЧНА

**За 40 гадоў свайго існавання маладзечанская дзіцячая спартыўная школа выпусціла немала выбітных футбалістаў. Сёлета яны гуляюць у камандах вышэйшай лігі, у нацыянальнай зборнай і ў швецкім чэмпіянаце.**



Святлана Міндзюкевіч і трэнер Уладзімір Макоўскі раюць аддаваць у футбол і хлопчыкаў, і дзяўчынак.

Сёння спартыўная школа жыве, працуе. Трэнеры і кіраўніцтва сцвярджаюць, што ад дзяцей, як і сорак гадоў таму ў школе няма адбою. Адзінае, што дзеці сталі кволымі і не ўсе праходзяць медыцынскую камісію. Між тым, школа гадуе не толькі будучых футбалістаў але і вялікага ката, якога трэнеры школы выратавалі з-пад машыны, за што той і атрымаў мянушку Опель.

Мы сустрэліся з намеснікам дырэктара па асноўнай дзейнасці **Святлана Міндзюкевіч** і з трэнерамі ДЮСШ, каб пагутарыць пра футбол, пра тое, чаму ён папулярны сярод дзяўчат і як данесці бацькам думку, што займацца спортам № 1 па-ранейшаму прэстыжна.

### Дзявочы футбол – гэта калі крыўды, плач і капрызы

**Уладзімір Макоўскі** трэніруе дзяўчат 14-16 гадоў. Яны цяпер выступаюць на ліцэнзію ў чэмпіянаце Беларусі.

– Хаця ў спартыўную школу мы прымаем дзяцей ад шасці гадоў, дзяўчаты прыходзяць як раз у гадоў 12-14. Не сакрэт, што ўслед за хлопчыкамі-аднакласнікамі. Але, бывае, што поспехаў дамагаюцца значна больш, чым іх "кавалеры".

Трэнер Уладзімір Макоўскі расказвае, што трэніроўкі дзяўчат амаль нічым не адрозніваюцца ад трэніровак хлопцаў.

– Практыкаванні такія ж, адзінае, што нагрузка даецца меншая. Але дзяўчаты хлопцам не уступаюць. Толькі на заўвагі рэагуць па-свойму. Могуць пакрыўдзіцца, расплакацца. Тое ж самае і на гульнях. Але калі спартыўная злосць перамагае, тут ужо не да капрызаў.

Да таго ж, дзявочы футбол падтрымлівае ФІФА, а значыць праблем з фінансаваннем у жаночага футола няма.

**На сённяшні дзень у ДЮСШ займаюцца 320 дзяцей. Дзяўчынак усяго 30.**

– Таму што дзяўчат не пускаюць у футбол мамы, – кажа Святлана Міндзюкевіч. – Дзяўчынак жа куды аддаюць? У гімнастыку, танцы. Да таго ж не ўсе мамы гатовыя аддаць сваю дачку ў 14 год вучыцца ў іншы горад. Ды і хлопчыкаў аддаваць не хочуць. Таму і атрымоўваецца, што ў нас дзеці займаюцца пакуль маленькія, потым лепшых мы аддаем у вучылішча, у алімпійскія школы. Некаторыя паступаюць вучыцца і там гуляюць за каманду ўніверсітэта або каледжа.

– Канешне, каб была ў горадзе вышэйшая ліга, то выхоўвалі б дзяцей адмыслова для свайго горада, – кажа Уладзімір Макоўскі, – а так даводзіцца аддаваць другім.

У 2017 годзе 29 выпускнікоў школы прымалі ўдзел у чэмпіянатах Беларусі і нават у чэмпіянаце Швецыі.

У Швецыі гуляе **Піліп Вайцяховіч**. Пяцёра выпускнікоў ДЮСШ сёння знаходзяцца ў нацыянальнай зборнай Беларусі. Гэта **Сяргей Лавор, Андрэй Піліпавец, Уладзіслаў Малькевіч, Уладзіслаў Фядотаў і Яўген Гулецкі.**

Ёсць маладзечанцы таксама ў складах каманд вышэйшай лігі. Той жа Уладзіслаў Фядотаў гуляе за футбольны клуб "Іслач", Уладзіслаў Малькевіч гуляе ў ФК "БАТЭ", у дублюючым складзе каманды "Шахцёр" гуляе **Андрэй Піліпавец**, у футбольным клубе "Дынама" гуляе **Сяргей Карповіч.**



Кот Опель – талісман спартыўнай школы.

### У хакей гуляюць нашы футбалісты

Трэнеры ДЮСШ прыгадваюць, што аднойчы трапілі на трэніроўку па хакеі.

– І бачым – наш жа кліент. Спрытны, тэхнічны. Каб не хакей, дакладна б гуляў у нас. Гэта так, роздум услых, прафесійная скваплівасць да таленавітых дзяцей.

– Канешне, – працягвае Святлана Міндзюкевіч, – у матэрыяльнатэхнічным плане ў нас не так усё прыгожа, як у хакеі. Наш боль – гэта стадыён. Мы ўсё чакаем, калі нам пакладуць штучнае пакрыццё. Мы не скардзімся, разумеем, што аддзел спорту не разарвецца на ўсе ДЮСШ, але каб быў такі стадыён, нам бы не даводзілася прасіцца ў спартыўныя залы па школах і прадпрыемствах. Форму дзяцем мы купілялі апошні раз у 2005 годзе. Добра, што за перамогі ў турнірах даюць мячы, таму хаця б гэта купляць не трэба. Але ў нашай школы ёсць перавага – заняткі ў ёй бясплатныя.

Кошт заняткаў, кажуць трэнеры, гэта самае папулярнае пытанне ў бацькоў, якія хочуць аддаць сваё дзіця ў спорт.

Разам з трэнерамі і Святланай Міндзюкевіч мы паспрабавалі скласці памятку для бацькоў, якія сумняюцца ў тым, ці варта аддаваць дзяцей у футбол.

1. Заняткі ў ДЮСШ бясплатныя. А форма, якую купляць бацькі за свой кошт, нашмат таннейшая, чым форма для іншых відаў спорта.
2. Футбол – гульня камандная, а значыць з ранняга дзяцінства ваша дзіця будзе вучыцца адказваць не толькі за сябе, але і за каманду, знаходзіцца ў калектыве.
3. Заняткі праходзяць на базе школ. Таму можна не траціць час на дарогу, а выбраць месца заняткаў непадалёк ад дому.
4. У 14 гадоў у дзіцяці будзе магчымасць працягнуць вучобу ў школах і вучылішчах спартыўнай накіраванасці.

Яшчэ адна перавага заняткаў у ДЮСШ, што прыйсці можна ў школу не першага верасня, а цяпер. Дзверы ДЮСШ будучым выбітным футбалістам і футбалісткам заўсёды адкрытыя, але спачатку трэба спадабацца Опелю, крэсла якога знаходзіцца побач з крэслам трэнераў.

**Фота аўтара.**



Наталля ТУР
natali.turenok
@gmail.com
8-044-566-26-99
(працоўны)



# Крыжаванка ад "Рэгіянальнай газеты"



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

4. Гэтым словам спачатку называлі людзей, якія не ўмелі размаўляць па-грэчаску.
5. Металічная частка электрычнае лямпачкі, якая служыць для ўмацавання яе ў патроне.
6. Дзялянка высечанага лесу, хмызняку; высека.
7. Перабой у руху, рабоце, дзеянні.
9. Прастора, заслоненая ад сонца.
10. Матэрыя, рэчыва, што так ці інакш абмежавана ў прасторы.
12. Прошлы незакончаны час.
15. Становішча ў шахматнай партыі, калі бок, які павінен пахадзіць, не можа скарыстацца гэтым правам, а кароль не пад шахам.
16. Пісьмовае распараджэнне; дакумент на атрыманне, на выдачу нечага.
17. Сапраўднае прозвішча беларускага пісьменніка, аўтара рамана "Салавей", апавяданняў "На Каляды к сыну", "Пяць лыжак заціркі".
18. У фізіцы — адзінка вымярэння асветленасці.
19. Цела, якое збоку выглядае, як трохвугольнік, а знізу – як круг.
20. Від выяўленчага мастацтва, у якім жывапісная карціна вялікіх памераў дапаўняецца аб'ёмным (бутафорскім) пярэднім планам, макетам, а таксама твор гэтага мастацтва.

**ПО ВЕРТЫКАЛІ:**

1. Пісьменнік, які стварыў героя Жана Вальжана
2. У сусветнай гісторыі гэты архітэктурны помнік лічыцца самым крывавым месцам.
3. Пісьмовая просьба, складзеная па ўстаноўленай форме.
8. Высокая гліняная пасудзіна, якая звужаецца ўверсе і мае звычайна ручку і носік.
9. Плесневы налёт.
11. Пачатак.
13. Каханы Жэнев'евы ў мюзікле "Шэрбургскія парасончыкі".
14. Вязкая маса рознай кансістэнцыі, якая атрымліваецца пры змешванні мукі з вадкасцю.
15. З-за гэтага захаплення Караткевіч сварыўся з Рыгорам Барадуліным.
18. Топленае свіное сала.
19. Прозвішча заснавальніка і дырэктара кампаніі, якая працуе ў Беларусі, і выпусціла гульню "Свет танкаў".

**АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ З №45. По гарызанталі.** 2. варагі. 4. нізка. 5. масаі. 7. дабро. 8. закон. 11. журавіны. 12. імпэт. 13. ідылія. 14. каліфорнія. 16. дрэнь. 17. нутро. 20. дэбітор. 24. багаты. 26. дынар.
**Па вертыкалі.** 1. нуга. 3. неафіт. 6. тараканава. 9. норд. 10. ісландыя. 12. інцыдэнт. 15. ліліпуцыя. 17. ніць. 18. дыскont. 19. субота. 21. фларэнцыя. 22. неф. 23. нязграбны. 25. сочы. 26. душ.

## ГАРАСКОП 17-23 ЛІСТАПАДА



**АВЕН.** Калі ў вас ёсць пытанне, на якое вы даўно хацелі атрымаць адказ, задайце яго правільнаму чалавеку. Толькі яго адказ дасць вам палёгку і дапаможа па-новаму паглядзець на жыццё.



**ЦЯЛЕЦ.** Замест таго, каб засяроджвацца на сабе, часам варта паглядзець на іншых людзей – і вам адкрыецца цэлы космас. Не бойцеся зблізжацца з сябрамі, гэта ў першую чаргу ўзбагачае вас саміх.



**БЛІЗНЯТЫ.** Стаўце канкрэтныя мэты, і ўсе будуць здзіўляцца, як вы так лёгка дасягаеце патрэбнага вам. Толькі вы ведаеце, колькі працы каштуе кожнае дасягненне. Заўсёды ёсць чаму павучыцца, але будзьце ў гэтым настойлівыя. Пераадольваючы сябе, вы робіце самую складаную і важную працу ў жыцці.



**РАК.** Вам трэба разабраць па скрыначках старыя справы, закрыць іх і больш да гэтага не вяртацца. Зачыніце дзверы за мінулым, якое не варта прыводзіць у будучыню.



**ЛЕЎ.** Дазвольце сабе адчуць асалоду ад звычайных клопатаў, зірніце на турботы па-філасофску. Яны адразу адыйдуць назад і дадуць месца прыемным момантам, з якіх складаецца шчасце. Толькі не забывайце, што яны неабходныя не толькі вам, але і ўсім іншым.



**ДЗЕВА.** Вам неабходна правесці некалькі вечароў за кнігай пра адносіны. Перажыванні герояў дапамогуць запоўніць плямы, якія былі вам незразумелымі. Прааналізуйце свае пачуцці за апошні час, гэта важна. Не трэба пакідаць штосьці незразумелым пра саміх сябе. Гэта не дасць вас супакою, будзе патрабаваць вырашэння. І чым больш вы зацягнеце, тым цяжэй будзе яго знайсці.



**ШАЛІ.** Арганізуйце вячэру з блізкімі сябрамі, прыгатуйце смачную ежу, паразмаўляйце пра надзённае, раскажыце, пра што марыце. Такія вечары неабходныя кожнаму, няхай іх будзе ў вас больш. Часам трэба раскрыць свае сакрэты, каб яны перасталі вас турбаваць.



**СКАРПІЁН.** Прыйшоў час, якога вы чакалі, вам спрыяюць зоркі і падштурхоўваюць: "Давай, пачынай". Менавіта цяпер вам варта рызыкнуць і зрабіць тое, у што вы да канца не раней нават не верылі. Будзьце ўпэўненымі ў перамозе і яна не прымусіць сябе чакаць.



**СТРАЛЕЦ.** Перастаньце спаць і пачынайце круціцца – тады і ўсё вакол вас закруціцца! Усё ў вашых руках, і залежыць толькі ад таго, як вы гэтым скарыстаецеся. Набярыцеся смеласці, вазьміце сябе ў рукі і прыступайце да самага складанага. Зрабіце найцяжэйшую частку – і астатняе пойдзе як па масле.



**КАЗЯРОГ.** Вас чакаюць грашовыя сюрпрызы. А вось прыемныя ці не – залежыць ад таго, колькі намаганняў вы прыклалі да сваёй задумы.



**ВАДАЛЕЙ.** У вас наперадзе сустрэча з важным чалавекам, які моцна паўплывае на вашае далейшае жыццё. Пакажыце сваю сур'ёзнасць, адказнасць – і ўсё зменіцца. Калі вы зможаце сябе пераадолець.



**РЫБЫ.** Прыемная падзея ў бліжэйшым будучым нясе некаторых хваляванні. Рыхтуйцеся, але перажываць вам няма пра што. Усё пройдзе цудоўна, і вы адчуеце неверагоднае шчасце!

**Эмілія ХВОЯ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | | | | 4 | 5 |
| 2 | | | 3 | 8 | | 7 | | |
| 8 | | | | 7 | 6 | 3 | | |
| | | | 8 | | 1 | | 5 | |
| | | | 9 | | 7 | | 3 | 6 |
| 5 | | | | | 2 | | | 8 |
| | 6 | | | | | | 9 | 4 |
| 9 | | 4 | | | | 2 | | |
| | | 3 | | | 4 | | | 7 |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 6 | 3 | 7 | 1 | 2 | 9 | 8 | 4 | 5 |
| 2 | 4 | 1 | 3 | 8 | 5 | 7 | 6 | 9 |
| 8 | 9 | 5 | 4 | 7 | 6 | 3 | 2 | 1 |
| 3 | 7 | 6 | 8 | 4 | 1 | 9 | 5 | 2 |
| 4 | 8 | 2 | 9 | 5 | 7 | 1 | 3 | 6 |
| 5 | 1 | 9 | 6 | 3 | 2 | 4 | 7 | 8 |
| 7 | 6 | 8 | 2 | 1 | 3 | 5 | 9 | 4 |
| 9 | 5 | 4 | 7 | 6 | 8 | 2 | 1 | 3 |
| 1 | 2 | 3 | 5 | 9 | 4 | 6 | 8 | 7 |

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017 / 2015

● НАДВОР'Е

**18 лістапада, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +3 / +3 | | +1 / +2 | | +1 / +2 | | +0 / +2 | |
| | 744 | ↗ 5 | 740 | ↗ 3 | 734 | ↑ 5 | 730 | ↑ 6 |
| Вільня | +3 / +4 | | +3 / +4 | | +2 / +3 | | +2 / +2 | |
| | 750 | ↗ 6 | 746 | ↗ 5 | 738 | ↑ 5 | 734 | ↗ 7 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |


Усход 8.48
Захад 17.07
Даўжыня дня 8.19


Усход 8.10
Захад 17.42
Маладзік




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

АШМЯНЫ

Мінімальная тэмпература -13,5 °C у 1993 годзе
Максімальная тэмпература +12,1 °C у 2002 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 12,2 мм у 2015 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

● Размаўляць па-беларуску ў смаргонскім садку №8 вучацца з дзяцінства. Чытайце, у якія гульні гуляюць і якія песенькі спяваюць выхаванцы беларускамоўных груп.













Фота Вольгі ШЛЯПО.

Злева направа: Анастасія Лягчыла, Анастасія Чачуліна і Вольга Абрамчык.

## На кастынг "Міс Беларусь 2017" у Вілейцы прыйшлі тры дзяўчыны

ВІЛЕЙКА

**10 лістапада ўвечары ў вілейскім Доме культуры правялі кастынг.**

– Хацелася больш актыўнасці і ініцыятывы ад віляйчанак на такіх конкурсах, – кажа намеснік дырэктара Дома культуры, сябра журы **Вольга Шляпо**.

У выніку на конкурс прыйшло тры дзяўчыны – усе маладыя спецыялісты са сферы культуры – **Вольга Абрамчык, Анастасія Лягчыла** і **Анастасія Чачуліна**.

Удзельніцы паказалі свае здольнасці ў дэфіле, эрудыцыі, самапрэзентацыі, веданні англійскай мовы.

У склад журы ўваходзілі **Вольга Шляпо**, мастацкі кіраўнік ДК **Аляксандра Лапацкая**, харэограф **Крысціна Язневіч**, рэжысёр **Кірыл Чэрнік**.

Дзяўчатам задавалі пытанні пра прыгажосць, моду, стыль. Па словах Вольгі, канкурсанткі адчувалі сябе ўпэўнена.

Па рашэнні журы, Вілейшчыну на абласным конкурсе прадставіць Вольга Абрамчык. Дзяўчына працуе метадыстам у клубнай сістэме раёна.

Нагадаем, што пераможца рэспубліканскага конкурсу "Міс Беларусь-2017" атрымае 11 500 рублёў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Як вы рыхтуецеся да зімы?



**Іван Шульга, газаэлектразваршчык:**
– Пакуль асабліва ніяк. Толькі зімовую гуму для машыны набыў учора.



**Юлія Ярашонак, вучаніца:**
– Ем вітаміны і думаю, што папрасіць у Дзеда Мароза на Новы год. А яшчэ бацькі купілі мне зімовую куртку.



**Леанід Свірыдаў, манцёр чыгуначных пуцей:**
– Канешне, рыхтуюся, работа такая. Рамантуем чыгуначныя пуці, робім ўсё, каб зімой іх не замятаў снег. А дома назапасіў дроў.



**Ксенія Масевіч, навучэнка:**
– Хаджу па магазінах. Набываю розныя вясёлыя штучкі: цацкі, сувеніры, смешныя навагоднія шапачкі.



**Ірына Карповіч, дыспетчар:**
– Закатак наставіла. Каб на ўсю зіму было і сабе, і дзяцям.



**Анастасія Свірыдзёнак, студэнтка:**
– Ходзім з сяброўкай па магазінах, выбіраем ёй пухавік на зіму.



**Юлія Рабава, прадавачка:**
– Набыла шапку і шалік. Зімовыя боты купіла яшчэ летась, калі быў "не сезон", заканоміла.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№46 (1177) 17.11.2017. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02330 /190 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 1089. Падпісана ў друк у 9.00 16.11.2017.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.